PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (1965) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 9 СТУДЗЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

*Вясёлых і радасных Каляд, а таксама прыемнага святочнага адпачынку чытачам „Нівы” жадае Рэдакцыя*



*Калядуе сям'я Міхала Байко з Гайнаўкі.* **Фота У. Завадскага**

## СВЯТАСЦЬ І АБРАДНАСЦЬ

Чарговы раз адзначаем і ў гэтым годзе непаўторныя калядныя дні. У храмах спяваецца „Хрыстос нараджаецца — слаўце, Хрыстос з нябёс — вітайце, Хрыстос на зямлі — узносцеся”. Для свету Раство Хрыстовае — пачатак новай эры; для хрысціян — фундаментальная праўда збаўлення.

Не падлягае сумненню, што прымерканыя Царквою пасля прыняцця хрысціянства да Нараджэння і Хрышчэння Хрыстовага Каляды — старадаўняе паганскае свята. Рэлігійнае значэнне Каляд, тэалагічная праўда аб Богаўвасабленні цесна спляліся з паганскімі і пазнейшымі хрысціянскімі абрадамі і традыцыямі. Усё разам стварыла той чароўны, рэлігійна-ўзнёслы і гаспадарска-сямейны ды бытавы характар свята. У далёкую мінуўшчыну, калі нашы продкі пакланяліся сілам прыроды і верылі ў сваіх шматлікіх ідалаў, Калядамі пачынаўся каляндарна-сезонны год; зіма адступала перад летам і „Бажбог” паказваў перамогу святла над цемрай. Лацінскаму назову „календэ” адпавядаў наш, больш свойскі, эквівалент. Ёсць прыгожая казка-легенда, згодна якой „Калядою” звалася дачка бога навальніцаў і грымотаў Перуна. Нібыта ў калядную ноч яна ўпала з неба і, ператварыўшыся ў белую козачку, хадзіла па свеце, вызваляючы людзей ад цемры зімовага бога Зюзі.

У старадаўнасці Каляды, сімвалічна звязаныя са святлом і нараджэннем жыцця, займалі першае і выключнае месца, асабліва сярод аграрных абрадаў і святкаванняў. Для земляроба, якога ўвесь быт залежаў ад урадлівасці ніваў, абрады наогул былі прасякнуты думай пра будучыню роду, клопатам пра тое, каб у найбольш спрыяльны час засеяць поле, захаваць ураджай ад стыхіяў, жывёлу ад памору і дзікіх звяроў, каб у пару сабраць плён. Асабліва магічнае значэнне набываў пачатак сонечнага года. Абрады і песні зімовага цыкла былі накіраваны на тое, каб загадзя паўплываць на будучы ўраджай. Каза, казёл, футравая скура, казліная маска — сталі сімваламі ўрадлівасці і багацця. Яшчэ і да сёння захаваўся звычай магічных заклінанняў і хаджэння з „казою” адкуль і ўзялася прымаўка: „Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць”.

У зімовы перыяд народнага календара, асабліва насычанае абрадамі і песнямі было святкаванне гэтак званай „беднай” куцці, Каляд і „шчадрухі” — „багатай” куцці напярэдадні новага года і поснай, „вадзяной, галоднай” — напярэдадні Хрышчэння Гасподняга (Вадохрышча). Шмат увагі аддавалася аграрнай і любоўнай варажбе, гаспадарчым павер'ям і прыкметам. Зорнае неба на куццю прадвяшчала добры ўраджай на ягады і грыбы ў наступным годзе, іней на дрэвах — багатую квецень у садах, снег і мяцеліца азначалі, што ўлетку будуць добра раіцца пчолы...

Прыблізна з XVI-га стагоддзя на Беларусі вядомыя гэтак званыя „батлейкі” — своеасаблівы жанр народнага лялечнага тэатра. У пераноснай скрыні разыгрываўся спектакль са сцэнамі Хрыстовага Нараджэння. Ад гэтых спектакляў узялі і захавалі свой назоў „батлеек” прымерканыя да іх песні. Некаторыя з іх: „Неба і зямля”, „А ў лузе, лузе”, „Ой, на моры, моры” хаця і ўсё радзей, але вы-

☞ *Працяг на стар. 3*

## КАЛЯДЫ

Нямала я сустрэў у сваім жыцці Каляд. Вялікае гэта свята, сямейнае. З кожным годам яно неяк іначай выпадае. Даўней чакаеш іх, чакаеш, дачакацца не можаш. А цяпер вось як гады хутка ляцяць! Ды і стол нейкі вялікі зрабіўся, ці што? Не пабольшаў ён, не, гэта нас за ім менш зрабілася. Найбліжэйшыя нашаму сэрцу нас пакінулі... І самі мы з кожным годам старэем. І не ў смак нам усё робіцца. Але, дазвольце мне, дарагія, вярнуцца хоць на хвіліну ў даўніну, годзікаў хоць з сорак скінуць са спіны. Ой, тады то былі Каляды!

Раз такое свята ў год бывае. Ледзьве дачакаешся. А кожны дзень запоўнены адным клопатам — вучыцца трэба, а на ўсё цікавае часу няма. А тут калядкі развучыць трэба, звязду зрабіць... Вялікую, падобную да кавалерскай, у два рады рагі, з ліхтарамі. Каб толькі хутчэй тое свята! І пост ужо дапёк! На Каляды толькі ўсяго будзе, пальчыкі лізаць! А найбольш улюбёны — вечар наконадні. Мамка есці нам не дае да першай зорачкі. А ўсё ў доме цудоўна пахне, ледзь стрываць! Дзень страшэнна доўжыцца. І вось, урэшце, — дачакаліся! Цямнее. Зорку ўжо відаць? Можа і не відаць? Тата кажа: „Пара”. Але мама пытаецца ў мяне: „Зорачку ты ўжо прыкмеціў, сынок?” „А як не, мамка, заўважыць, калі церушыць сняжок!” „Ну, раз так... А ты, бацька, не забыўся прынесці сена?” О, татка на гэта ніколі не забудзе! І тата з усмешкай глядзіць на мяне — разам жа сена мы прыдбалі! Мама ж ведае, што ўсё падрыхтвана, але ж усё дагледзець мусіць, усё на гаспадынінай галаве.

Ну і сядаем мы за вячэру. Чаго тут няма! Багаты наш стол! А ўсё на ім поснае. Сенкам засланая хата. Пахне сенам і ялінкай. Пад абразамі стаіць каляда...

Такі вечар! Хай бы ён не кончыўся! Столькі смачных страў для нас, ёсць і меса для вандроўца. Потым абавязкова пойдзем у царкву, дзе сустрэнем першы дзень Руздва.

Святочнае снеданне. Вось яго чакалі ўвесь год! Нездарма ўжо тыдзень перад святам не толькі мне, малому, слінка цякла!.. Тата з павагай устае, падымае келіх. Блаславіць. Жадае ўсім добрага здароўя, дабра ў жыцці. І, найважнейшае, наступных Каляд дачакаць у здароўі.

Пасля снедання — хто куды. Хто ў царкве быў, адпачывае пасля ночы. Нам, маладым, ледзь дачакацца вечара, каб бегчы калядаваць. Амаль усю ноч будзе ў вёсцы чуваць калядныя песні. Новая радасць стала... Вёска святкуе Нараджэнне Хрыста Збавіцеля. Вёска жыве!

Сёння, здаецца, Каляды — як Каляды. Але прапаў сапраўдны святочны абрад. Не чакаючы свята, б'юць вепрукоў, не посцяць. Штодзень свята сабе робяць. Хто там калядную зорачку чакае! Сена мала хто прынясе ў хату. Каляду, што яе пад ікону ставілі, камбайн з'еў у жніво. Калядаваць ходзяць амаль толькі дзеткі, ды разок толькі пройдуцца па вёсцы, мала калядак ведаюць. Мала каму з нашых дзяцей шкада мінуўшчыны, ды і адкуль яе ім ведаць? Ці мы іх чаго навучылі? Забудуць сваю мову, забудуць і сваіх бацькоў! Народ датуль жыве, дакуль жывуць ягоныя мова і абычай.

Жадаю нам радасных свят і шанавання таго, што нам засталося ад бацькоў.

**ГРЫША МАРОЗ**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Когла он ушёл из жизни, то его притаившиеся противники-антисоветчики и антикоммунисты начали сбрасывать с себя маски предателей и двурушников. Со временем этот процесс перерос в невиданную и неслыханную в мире кампанию по шельмованию Иосифа Виссарионовича Сталина, а также всего того, что было достигнуто партией и народом под его руководством. При нём многоцветно и разнообразно расцвила советская литература. Вождь считал своим долгом воспитать честное, образованное поколение советских людей с высоким чувством ответственности за свои поступки, за страну, за народ. И ему удалось добиться огромных успехов.*
*(Наш компас, н-р 11)*

Гэтак пішуць у газеце, якая выдаецца ў сталіцы Беларусі — Менску. Апрача партрэтаў Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна у віньетцы красуецца лозунг: „Под знаменем марксизма-ленинизма коммунисты-большевики вместе с трудящимися непременно возродят социализм!" Загалоўкі артыкулаў гучаць: „И. В. Сталин — выдающийся теоретик и практик марксизма-ленинизма", „Остановим демофашизм — спасём Россию".

* * *

*Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка прабываў з афіцыйным візытам у Лёндане. Падчас візыту адбылася сустрэча зь беларусамі Вялікабрытаніі. Спадар Краўчанка гаварыў таксама пра патрэбу абароны беларусаў Беласточчыны, на якіх вядзецца польскі наступ у атмасфэры варожасьці да ідэі незалежнасьці Беларусі.*
*(Беларус, Нью-Йорк, н-р 407)*

Нам было б вельмі прыемна, каб міністр Краўчанка абараніў беларускасць у Беларусі.

* * *

*Szwedzcy celnicy osłupieli. Przyzwyczaili się już do polskiego przemytu, ale tego jeszcze nie widzieli. Zatrzymano polskie małżeństwo z córką. Już w momencie, gdy wysiadali z wozu, wydali się celnikom jacyś sztywni. Cała trójka, jak się okazało, miała ulokowane pomiędzy pośladkami paczki papierosów: ojciec i matka po sześć, córka trzy. Obie kobiety ukrywały również po jednej półlitrówce wódki, umieszczonej w... pochwach.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 294)*

* * *

*Ja byłem bardzo nieśmiały i tak naprawdę nie miałem żadnych dziewczyn,* — сказаў Уладзімір Жырыноўскі рэдактару Э. Бурэлю з беластоцкай газеты
*(Kurier Poranny, nr 243)*

* * *

*Spełniamy marzenia*
*(Kurier Poranny, nr 243)*

Да гэтай пары такога чагосьці яшчэ не было.

* * *

*Калі вы пытаеце пра канфлікт, то ведайце, што экспансія ці агрэсія ідзе толькі ў адзін бок — у адносінах да БГКТ, а ў ніякім выпадку з боку БГКТ да іншых арганізацый* — сказаў Аляксандр Баршчэўскі журналісту менскага тыднёвіка
*(Голас Радзімы, н-р 49/1993 г.)*

Пан старшыня БГКТ забыўся ўжо пра апошні з'езд сваёй партыі, а асабліва пра змест свайго выступлення. Гэта ж было так даўно — у маі 1993 г.

* * *

*W 1993 r. ZUS osiągnie ponad 10 bilionów nadwyżki, zaś kalkulacje na 1994 r. zakładają nadwyżkę 8 bln zł. Wielkość zysku ZUS-u nie zależy od wielkości sprzedanego towaru. Od każdego zatrudnionego obywatela zakład pracy musi odprowadzić ZUS-owi 48 proc. wysokości jego wynagrodzenia. Uwzględniając więc aktualny system ubezpieczeniowy i podatkowy, pracodawca chcący zapłacić pracownikowi wynagrodzenie netto w wysokości 2 mln zł. musi ponadto odprowadzić do szacownych instytucji państwowych 1.360.000 zł., co oznacza, że koszt pracownika wynosi 3.360.000 zł.*
*(Gazeta Współczesna, nr 243/1993 r.)*

* * *

*Po raz pierwszy w historii Kościoła katolickiego w Stanach Zjednoczonych jednej z archidiecezji, a konkretnie Santa Fe w stanie Nowy Meksyk grozi bankructwo. Nie jest w stanie spłacić odszkodowań, zasądzonych przeciwko niektórym księżom za molestowanie seksualne nieletnich.*
*(Rzeczpospolita, nr 300/1993 r.)*

* * *

*Ці не пара ўжо сказаць адкрыта і галосна розным польскім ксяндзам-місіянерам: „Пакіньце нас у спакоі. Не рабеце закалотаў на Беларусі. Не рабеце ў нас таго, што вам самім было б нямілае".*
*(Беларус, Нью-Йорк, н-р 407)*

* * *

*Zachwyciło mnie zdanie pana prezydenta, że Sejm obecny, pracowicie uchwalający jedna za drugą ustawy socjalne, może jest nawet bardzo pożyteczny, ale musi upaść, bo jest nudny i ludzie obalą go z nudów. Osobiście jestem innego zdania, wiem bowiem, że dopóki mamy naszego pana prezydenta, to o nudzie nie ma mowy, zawsze coś ciekawego nam wymyśli* — піша *Krzysztof Teodor Teplitz.*
*(Polityka, nr 51/1993 r.)*

Пацвярджаем, пан прэзідэнт сапраўды не ёсць нудным, а можна сказаць, што нават забаўным.

* * *

*Na ogół pijemy z powodów kulturowych i psychologicznych. Wspólne picie służy zmniejszeniu dystansu między ludźmi, załatwianiu interesów, ułatwia zabawę i świętowanie.*
*(Przekrój, nr 52/1993 r.)*

Безумоўна так, мы інакш ніколі не думалі.

* * *

*Сёння пляшка нашага піва ў краме каштуе бадай 500 рублёў. Гэта не па кішэні большасці пакупнікоў.*
*(Пагоня, н-р 40, Гродна)*

Вось і паспрабуй падтрымаць традыцыю, пасвяткуй, павесяліся з сябрамі, калі ўжо агульнасавецкае жыгулёўскае піва не па кішэні большасці тамашніх пакупнікоў. Проста жах!

* * *

*Для ўсіх велікарусаў Беларусь была terra incognita.*
*(Свабода, н-р 13)*

А ўсё гэта таму, што расейцы не чыталі апошняй кніжкі Сакрата Яновіча „Terra incognita: Białoruś".

# З мінулага тыдня

**Польшча зноў увайшла ў перыяд класавай барацьбы**, падобнай да той, якая выступіла ў развітых краінах Еўропы 25 гадоў таму, — мяркуе **Януш Грыневіч** з Еўрапейскага інстытута рэгіянальнага мясцовага развіцця Варшаўскага універсітэта. Ён лічыць, што калі пратрымаецца сённяшняя рынкавая і прыватызацыйная палітыка, у найбліжэйшых гадах паглыбіцца расслаенне польскага грамадства і класавыя супярэчнасці могуць выклікаць грамадскія хваляванні.

**З агульнай колькасці 164 выбарчых камітэтаў** толькі 50 камітэтаў тэрмінова (г. зн. да 20 снежня м. г. ) апублікавалі фінансавыя справаздачы і паведамілі аб гэтым Дзяржаўную выбарчую камісію. ДВК вырашыла пачакаць на рэшту справаздач да 12 студзеня г. г., а потым павядоміць пракуратуру аб невыкананні некаторымі камітэтамі выбарчага закону. Адказным асобам з камітэтаў, якія не выпаўняць сваіх абавязкаў, пагражае кара да 2 гадоў турмы або штраф.

**1993 год** вылучыўся самым нізкім натуральным прыростам польскага насельніцтва за пасляваенны перыяд. У мінулым годзе колькасць насельніцтва краіны павялічыўся на 93 тысяч чалавек. Польшча налічвае зараз звыш **38,5 мільёна** грамадзян.

**Аўтаматычная станцыя** радыяцыйнага кантролю забруджання паветра АСС-500, падараваная прэзідэнтам РП **Лехам Валэнсай** для АЭС у Роўне, цяпер знаходзіцца на складзе, — праінфармаваў журналіста ПАП дырэктар электрастанцыі **Віктар Кароўкін**. „Калі б станцыю, вартасцю ў 10 тысяч долараў ЗША паставіць на полі 4 км на захад ад АЭС, напэўна на працягу першай ночы яе ўкралі б", — паясніў **Ігар Сіманаў** з Дзяржкамітэта па радыяцыйнай бяспецы Украіны.

**70 мясцовасцей на Украіне** пацярпелі ад паводкі. У выніку працяглых праліўных дажджоў пад вадой апынулася палова тэрыторыі Закарпацця. У значнай ступені быў паралізаваны дарожны і чыгуначны транспарт.

**У Беластоку пабываў віцэ-мэр Калінінграда Аляксей Канюшэнка.** Мэта візіту — абмеркаванне выканання дагавору паміж абодвума гарадамі. Госць наведаў беластоцкія заводы і Супрасль.

**Віцэ-прэм'ер і міністр юстыцыі Владзімеж Цімашэвіч** прадаў свае статутныя ўзносы ў „Газеце тыгаднёвай", дзе быў адным з заснавальнікаў. Нагадаем, што закон патрабуе ад публічных асоб выйсці з усялякага роду суполак і падобных камерцыйных структур. Выдаўцом і галоўным рэдактарам „Газеты тыгаднёвай", якая выходзіць у Беластоку з паловы 1992 года, з'яўляецца **Анатоль Вакулюк**.

**Фонд „Наша будучыня"** арганізаваў у снежні м. г. харытатыўны канцэрт гуртоў дыска-пола ў спартыўнай зале клуба „Влукняж" у Беластоку. Ахвяраванні ад публікі збіралі журналісты Беластоцкага радыё і ганаровая патранеса фонду **Барбара Цімашэвіч**. Сабраныя 17 мільёнаў злотых былі перададзены школам у **Шымках, Нараўцы, Семяноўцы і Старым Баршчэве** дзеля дафінансавання школьнага харчавання.

**Мельнік** пачаў хадайнічаць за вяртанне мясцовасці гарадскіх правоў. Гэтае надбужанскае мястэчка на працягу пяці стагоддзяў карысталася магдэбурскім правам, а страціла яго ў XIX стагоддзі.

**Надбужанскі ландшафтны запаведнік** праўдападобна паўстане ў гэтым годзе ў межах гмін **Сямяцічы, Мельнік і Драгічын**. Вясною плануецца правесці перапіс прыродных і культурных помнікаў на гэтай тэрыторыі. На другім берагу — у Бела-Падляшскім, Сядлецкім, Астралэнцкім і Цеханоўскім ваяводствах такі запаведнік ужо існуе. На яго абшары знаходзяцца 83 помнікі прыроды і тры рэзерваты, а пад ахову ўзялі чарапаху балотную, падворліка малога, бусла чорнага, рэмеза звычайнага, бабра, выдру. Даўжыня запаведніка на абодвух берагах ракі Буг — 180 км. Будзе гэта самы доўгі ландшафтны запаведнік у Польшчы.

**Трагічны выпадак здарыўся ў Вітаве** (гміна Дубічы-Царкоўныя). На чыгуначным прыпынку пад цягнік, які ехаў з Гайнаўкі ў Седльцы, папалі муж з жонкай. Жанчына загінула на месцы, а мужчыну адрэзала нагу.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Багаты вечар — традыцыя і абраднасць.
- Гісторыя Орлі.
- Школа ў Дубінах.
- Інтэрв'ю з консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ігарам Хадасевічам.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## СПАДАРЫ, НАС, ЗДАЕЦЦА, ПРАДАЛІ...

„Прыйшоў, убачыў, перамог", — менавіта такім быў лейтматыў выступлення прэм'ер-міністра Беларусі Вячаслава Кебіча перад дэпутатамі пасля перамоў са старшынёй Савета Міністраў Расеі Віктарам Чарнамырдзіным.

Здаецца, больш за дасягнутыя пагадненні па энергетычным пытанні ўзрадавала беларускага прэм'ера тое, што і Віктар Чарнамырдзін, і прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын згадзіліся на прыкладзе Беларусі „апрабаваць адзіную грашовую сістэму", а з іншымі дзяржавамі пакуль не будуць весці перамоў наконт гэтага. Словам, можна падумаць, што забыўшыся на ўласныя праблемы, першыя людзі Расеі лічаць прыярытэтным клопат аб дабрабыце суседняй Беларусі. Ці не прыхавана за гэтым імкненнем да „роўнага партнёрства" пастка для суверэнітэту новanaроджанай беларускай дзяржавы? Ці не занадта вялікая гэта цана за ўваходжанне ў рублёвую зону?

Зусім магчыма, што апасенні многіх дэпутатаў наконт наканаванага Беларусі (якая, дарэчы, з'яўляецца важнай для ўсходняга суседа сваім геапалітычным становішчам) лёсу неафіцыйнай губерні Расеі спраўдзяцца ў хуткім часе пасля заяўлення аб уваходжанні дзвюх рэспублік у адзіную грашовую сістэму.

## РАБОЧЫ РУХ ПРЫХОДЗІЦЬ У ЗРУХ

Насуперак запэўніванням прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча аб стабілізацыі сітуацыі на Беларусі, рэальнай надзеі на спыненне падзення рэспублікі ў эканамічную бездань у простых людзей не засталося.

Аб гэтым сведчыць той факт, што пасля двухгадовага перапынку ў Менску аднаўлена дзейнасць гарадскога страйкавага камітэта. Прынята рашэнне падрыхтавацца да акцыі пратэсту і правесці ўсебеларускую забастоўку 12 студзеня гэтага года. У звароце да грамадзян рэспублікі члены страйкама заклікаюць змагацца за рэформы, якія б дазволілі за кошт сумленнпй працы жыць не па-жабрацку. Яны разлічваюць, што рабочыя не застануцца ў адзіноце (як гэта было ў 1991 годзе) — да іх далучацца настаўнікі, творчая інтэлігенцыя, сяляне, медыкі.

## СНІД НЕ МІНАЕ БЕЛАРУСЬ

На Беларусі зарэгістраваны 100-ы інфіцыраваны вірусам СНІД (AIDS). Па колькасці тых, хто заражаны вірусам імунадэфіцыту (каля 1,5 тысячы ў Менску і каля 2 тысяч па ўсёй рэспубліцы), Беларусь займае пасля Расеі і Украіны трэцяе месца, а па колькасці хворых, якія маюць характэрныя клінічныя прыкметы (25 чалавек), лідзіруе сярод краін Садружнасці.

Сярод вірусаносьбітаў „чумы XX стагоддзя" аказаліся па віне дарослых шасцёра дзяцей.

## НЕ ЦУРАЙСЯ РОДНАЕ МОВЫ!

Падобна на тое, што хутчэй амерыканскі парламент паклапоціцца аб лёсе беларускай мовы, чым свой, родны.

17-ы артыкул праекта Канстытуцыі, які замацоўвае за беларускай мовай статус дзяржаўнай, не быў прыняты Вярхоўным Саветам. За дзяржаўнасць беларускай мовы выказаліся 199 дэпутатаў пры патрэбнай канстытуцыйнай большасці — 230 галасоў.

Станіслаў Шушкевіч назваў такое становішча недарэчным. А лідэр апазіцыі Зянон Пазняк лічыць яго наогул ганебным.

Дарэчы, у Беларусі ёсць шанц стаць адзінай краінай былога Саюза, акрамя, зразумела, Расеі, дзе рускай мове можа быць нададзены статус дзяржаўнай. І ўсё гэта, дзякуючы вядомай ляноце большасці народных выбраннікаў, якія лічаць за лепшае карыстацца звыклай руска-беларускай „трасянкай", толькі б не брацца за вывучэнне роднай мовы.

## ДАПАМОЖА, ХТО ЧЫМ МОЖА

На працягу двух тыдняў вывучала місія Міжнароднага валютнага фонду магчымасць прадстаўлення Беларусі другой часткі крэдыту з фонду сістэмных трансфармацый у размеры 98 мільёнаў долараў.

Першую частку крэдыту (у такой жа суме) фонд прадставіў летам на надзвычай ільготных па міжнародных стандартах умовах: не былі агавораны канкрэтныя мэты яго выкарыстання, а толькі зададзена агульная колькасць і накіраванасць крэдыту на паляпшэнне плацежнага балансу краіны.

У той жа час праграмай развіцця Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прынята рашэнне аб выдзяленні рэспубліцы 200 тысяч долараў ЗША для фінансавання нацыянальнага праекта ацэнкі патрэб тэхнічнай дапамогі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# СЛАЎНАЯ ВЁСКА, СЛАЎНЫ СОЛТЫС

У Дубінах 380 жылых дамоў. Многія маладыя людзі будуюцца, нягледзячы на эканамічны крызіс у краіне. Усё больш і больш людзей пасяляецца з навакольных вёсак у Дубіны, бліжэй да горада. І таму гэтая вёска, у адрозненне ад многіх сёлаў на Гайнаўшчыне, жывая і прыгожая. Вуліца тут чыстая, асфальтавая. Гарадская кумунікацыя спалучае Дубіны з Гайнаўкай. Многія жыхары вёскі працуюць у гайнаўскай прамысловасці і іншых установах. Аднак большасць дубінцаў жыве з працы на гаспадарках. У вёсцы значную пазіцыю займаюць рамеснікі. Самым папулярным відам рамесніцтва з'яўляецца вытворчасць панеляў (баазэрыі). Ля вёскі віднеецца аграмадная, недаконачаная фабрыка. Мясцовы чалавек хацеў у ёй наладзіць вытворчасць макаронаў. Ініцыятыву ажыццявіць яму не ўдалося, бо працэнты ад крэдытаў не дазволілі яму нават дакончыць фабрычны будынак, які цяпер руйнуецца. Дубінцы наракаюць — працу мелі б у сябе, на месцы, а так беспрацоўных усё больш і больш.

Солтыс вёскі

**ЯН ВЕРАМЮК**

ужо трэці год займаецца справамі вёскі.

— Гаспадарчыя справы ў нас наогул ідуць добра. Войт, хаця і жанчына, але з ёю можна ўсё зрабіць і аформіць. Адрамантавалі мы тут грамадскімі сіламі прыпынак і святліцу. Дарогі ў нас праезныя. У апошнім часе ладзілі дарогу з Дубін у Ліпіны. Праце вулічнае асвятленне, ноччу тут відна і бяспечна. У плане — пабудова тратуара паміж Гайнаўкай і Дубінамі. Патрэбны нам кіёск, у якім можна было б купіць папяросы, газеты ці таблеткі. Быў у нас, тут у Дубінах, на Пацанове, кіёск, але цяпер ён закрыты.

**ВЫТВОРЧАСЦЬ ПАНЕЛЯЎ**

У солтыса таксама дрэваапрацоўчы цэх, у якім робяць панелі (баазэрыю). У Дубінах гэтая галіна рамесніцтва мае шматгадовыя традыцыі.

— І за камуны, і цяпер ніхто нічога за дарма не раздаваў. Калісьці была праблема з сыравінай, цяпер — дрэва колькі хочаш, толькі прадаць тавар няпростая справа. У прадукцыю трэба ўкласці многа сваёй працы. Часта не сплю, даводзіцца мне ездзіць і ноччу. Кантакты трымаю з фірмамі ў цэлай краіне.

**КУЛЬТУРА**

Мясцовы клуб стаіць амаль пусты. Год таму памяшканне хацелі ўзяць у арэнду,



*Солтыс Ян Верамюк*

але вёска не згадзілася, бо ў ёй бібліятэка. У святліцу дзеці прыходзяць іграць у настольны тэніс. Калісь было намнога лепей. Цяпер людзі не маюць часу на культуру. Дэмакратыя ў бедным грамадстве вельмі ўскладніла стаўленне да культуры. Калісьці тут ладзілі жывапісныя, музычныя конкурсы, дзейнічаў славуты калектыў „Дубіны". Цяпер са святліцы ўкралі відэаапаратуру.

— Калі б нехта схацеў заняцца арганізацыяй культурных мерапрыемстваў, дык фінансы знайшліся б, — кажа солтыс. — Больш моладзі прыходзіла б тады ў клуб. Справа не ў тым, каб маладых прыцягвалі сюды водка і піва. Моладзь можна зацікавіць больш культурнымі справамі. У вёсцы арганізуюць такія мерапрыемствы, як „запусты" ці Новы год.

Солтыс памятае і аб тых, якія апынуліся ў цяжкім эканамічным становішчы. Больш за 20 сем'яў карыстаецца грамадска-сацыяльнай дапамогай.

— Часам трэба ехаць і намаўляць людзей, бо самі яны саромяцца або не ведаюць, як афармляць такія справы.

Солтыс — бацька трох сыноў. Усе яны вывучаюць беларускую мову. Солтыс не ўяўляе, што магло б быць інакш.

— Хачу бы, каб нашую беларускую спадчыну, якую атрымаў я ад бацькоў, перадаць і сынам. Гэта ж наш абавязак перад дзецьмі, а то будуць цурацца нас і нашых продкаў.

Ян Верамюк памагаў пры пабудове гайнаўскага беларускага музея. Рабіў там паркетную мазаіку, зразумела, дарма.

— Гэты чалавек нам шмат дапамог. Сваім прыкладам і энергіяй змабілізаваў і іншых. У Дубінах і навакольных вёсках многа такіх людзей, — сказаў Кастусь Майсеня, старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

# СВЯТАСЦЬ І АБРАДНАСЦЬ

☛ *Працяг са стар. 1*

конвацца да сённяшняга дня.

Традыцыйнае „калядаванне" з зоркай, або ўзбагачанае тэатралізаванымі сцэнамі, спалучае рэлігійны аспект Свята са свецкім, бытавым. Калядоўшчыкі перш за ўсё выконваюць святочны трапар, а непасрэдна за ім батлейку. У ёй абавязкова мусіць знайсціся пажаданне памыснасці і дастатку для сям'і гаспадара ў наступным годзе: „Дай табе, Божа, і ў каморы і ў аборы", „Дзе гара — там жыта капа, дзе лог — там сена стог". Пасля калядак часта наступала тэатралізаваная сцэна з казою або мядзведзем, якая таксама выказвала гаспадару найлепшыя пажаданні і павіншаванні для ўсіх дамачадцаў.

Каляды традыцыйна былі перыядам сватання і вяселляў. Шматлікія калядныя карагоды былі пабудаваныя на любоўнай тэматыцы; аб „Міколку — малойчыку красным", або аб „каралеўне Ганульцы". Калядныя песні ўсхвалялі іхныя пачуцці і жаніцтва. „Ой красна, красна каліна ў лузе — святы вечар, а красней таго Марыля ў таткі". Спявалася таксама: „Выйшла да сватоў наша Ганечка — Каляда — наша Ганечка; Ручнікі дала, бацьку дзякавала — Каляда — бацьку дзякавала".

У багатай, хаця напаўзабытай скарбніцы беларускіх калядных песняў ёсць дзіцячыя, дзявочыя ды ігральныя, як гэтая:

*Саўка ды Грышка ладзілі дуду,*
*Павесяліцца з ёй на Каляду,*
*Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду,*
*З ёй на Каляду.*

У калядках-батлейках пераплятаюцца водгукі далёкай мінуўшчыны з навейшымі рысамі народнага жыцця, абраднасць паганская з хрысціянскаю, рэлігійныя напевы з жартаўлівымі і вясёлымі. У ніякім выпадку гэта не пярэчыла царкоўным догматам; хутчэй за ўсё адухаўляла рэальнае жыццё і ўзбагачала гэтую спецыфічную галіну народнай творчасці.

Разумеючы культуратворчую ролю калядак, батлеек ды наогул калядных адбрадаў, вядомыя пісьменнікі, такія як Цётка і Змітрок Бядуля заклікалі краязнаўцаў збіраць і апрацоўваць іх. У 20-х гадах Інстытут беларускай культуры пастанавіў сур'ёзна скамплектаваць фальклорны матэрыял і дзеля гэтага сарганізаваў навуковыя экспедыцыі. У выдавецтве Беларускага дзяржаўнага універсітэта выйшла серыя зборнікаў „Беларускі фальклор у сучасных запісах", у якіх апісаны традыцыйныя народныя звычаі і абрады. У 60-я гады супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР апублікавалі комплексную гісторыка-тэарэтычную працу „Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць", у якой, між іншым, даследуецца жанр народнай каляднай паэзіі.

Сучаснае святкаванне Каляд пазбаўлена шматлікіх абрадавых элементаў, якія ўзбагачалі іх непаўторны настрой і перажыванне. Гэта сумная заканамернасць адмірання вёскі з ейным традыцыйным укладам жыцця. Канкрэтная віна ляжыць таксама на канкрэтных людзях. Замест стандартнага сцвярджэння, што беларускіх калядак н я м а, трэба паклапаціцца адшукаць і праспяваць іх. На Беласточчыне мастацкія кіраўнікі хораў, калядоўшчыкі або царкоўныя рэгенты ўпорыста „перажоўваюць" тыя самыя калядкі на царкоўнаславянскай або ўкраінскай мовах. На канцэртах царкоўнай музыкі, што адбываюцца ў Беластоцкай філармоніі, праўдападобна і ў гэтым годзе прагучаць тыя самыя: „Шчо то за прэдывна в світі новына," і „На нэбі зірка". Найгучней прагучаць напэўна: „Наш владыка хай жывэ", але ж не шкодзіла б і было б слушным, каб у гістарычна беларускім асяроддзі адрадзілася і жыла таксама беларуская культура.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЕ ПЛАНАВАННЕ: ЦІ БУДЗЕ БЕЛАСТОЦКІ АЭРАПОРТ ПАД ГРОДНАМ?

Пад тэрмінам *тэрытарыяльнае планаванне* разумеецца ў беларускай мове тое, што ў польскай мове называецца і плнаваннем, і прастораваі гаспадаркай (przestrzenna).

16 і 17 снежня 1993 года ў Аўгустове сустрэліся польскія і беларускія спецыялісты па тэрытарыяльным планаванні. Іхняя рабочая група працуе ўжо другі год. Разглядаюцца ёю праблемы тэрытарыяльнага планавання прыгранічнага макрарэгіёна Польшчы і Беларусі. У яго склад уваходзяць Гродзенская і Брэсцкая вобласці ды Сувальскае, Беластоцкае, Бела-Падляшскае і Холмскае ваяводствы (апошняе мяжуе з Беларуссю ў ваколіцы мястэчка Уладава). Спецыялісты з сумежных абласцей і ваяводстваў ды з Варшавы і Менска намагаюцца стварыць асновы сумеснага тэрытарыяльнага планавання польска-беларускіх прыгранічных раёнаў.

17 снежня спецыялісты прадставілі вынікі працы польска-беларускай камісіі тэрытарыяльнага планавання.

Камісія рашыла рэкамендаваць далейшую распрацоўку праграмы тэрытарыяльнага развіцця прыгранічнага макрарэгіёна, у тым ліку функцыянальных раёнаў „Беласток — Гродна — Ваўкавыск" і „Брэст — Белая-Падляшская". Вырашана таксама распачаць працу над польска-беларускім лексіконам тэрмінаў, звязаных з тэрытарыяльным планаваннем. Што да лексікону, дык, як перакладчык, магу з поўным перакананнем пацвердзіць яго неабходнасць. Тэрміны на абедзвюх мовах часта несумяшчальныя і так, „запаведнік" гэта па-польску быццам „rezerwat", але па-беларуску абазначае ён зусім не тое, што польскі „rezerwat".

Пры нагодзе моўных разважанняў, хачацца яшчэ адзначыць выключную чысціню беларускай мовы ў вуснах спадара Руслана Белагорцава, сустаршыні камісіі, намесніка міністра будаўніцтва.

Чытач можа запытацца, што мы, насельніцтва Беласточчыны, будзем мець з усяго гэтага планавання? Думаю, што сумесным планаваннем будучыні нельга грэбаваць. З чагосьці трэба пачаць. Колькі ж праблемаў, якія можна рашаць разам: і транспарт, і экалогія, і ахова помнікаў культуры, каб толькі палітыка не памяшала.

А пры чым тут аэрапорт? Аказваецца, старое лётнішча ў Беластоку нельга разбудоўваць. Пабудова новага аэрадрома патрабуе неймаверных капіталаўкладанняў. Тым часам гродзенскі аэрапорт знаходзіцца 80 км ад Беластока. Столькі, колькі з Катавіцаў у іхні аэрапорт. Хіба ж не лепей Беластоку інвеставаць у гродзенскі аэрапорт, чым будаваць зусім новенькі? Напэўна лепей, хаця цяжка паверыць у ажыццяўленне гэткага праекта.

Усё-такі, на Усходняй сцяне штораз больш варотцаў і можа калісьці мяжа адкрыецца насцеж. Пакуль што, прыватна збіраюся паехаць празам з сябрам на роварах у Камянец (праз Полаўцы — Пяшчаткі), каб падзівіцца на славуты стоўп. Нядаўна і гэта было немагчымым. Дык можа прычакаем і самалётаў?..

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# „Кожнай па заслугах"

Андрэй жыў звычайна, як і многія. Працаваў, меў камунальную кватэру. Ажаніўся з Маняй. Падрастаў ужо сын. Бывала, у кампаніі, пераважна пасля палучкі, любіў выпіць. Здаралася, што дадому вяртаўся позні вечарам. Жонка не магла гэтага сцярпець. Калі муж спазняўся на вячэру, замыкала дзверы. Навошта ёй п'яніца ў хаце. Прыходзілася тады Андрэю начаваць на сходах перад дзвярыма сваёй кватэры.

Насупраць жыла Нюта. У яе не было мужа. Суседка ўсё гэта бачыла, але спачатку не ўмешвалася ў сямейныя справы. Аднойчы, убачыўшы спячага Андрэя на сходах, не стрывала. Прыцягнула п'янага суседа у сваю кватэру і паклала на ложак. Раніцай Андрэй быў здзіўлены, не ведаў дзе знаходзіцца. Убачыўшы суседку, перапрашаў і, падзякаваўшы, пайшоў да сваёй сям'і. З таго часу такая сітуацыя паўтаралася. Андрэй пачаў задумоўвацца, чаму суседка больш пра яго дбае, чым жонка. І калі чарговы раз прачнуўся ў Нюты, запытаў:

— А што ты на тое, калі я ў цябе астануся?

— Добра, аставайся, калі хочаш, — згадзілася тая.

Вось такім чынам Андрэй змяніў сабе жонку. Маня толькі тады запалала зайздрасцю за мужа. Пабіла нават дзверы ў Нюты. Прыйшлося Андрэю са сваёй новай жонкай памяняць кватэру, каб далей ад першай. Жылі з сабой дружна. Андрэй больш не начаваў пад дзвярыма. А калі позна вяртаўся моцна выпіўшы да жонкі, Нюта пытала: „Кудою вадзіла цябе, што так доўга ішоў", — і клала яго ў пасцель. Абрыдла Андрэю так выпіваць і позна вяртацца. Заўсёды пасля працы спяшаўся дамоў, а калі захацелася выпіць чарку, жонка не шкадавала.

Цяпер Андрэй жыве сам. На могілках непадалёк сябе знаходзяцца магілы яго ных жонак. У Мані пастаўлены сціплы крыж, а ў Нюты — прыгожы помнік. Андрэй часта наведваецца туды. А калі хто пытае чаму такія розныя магілы ў яго жонак — адказвае: „Кожнай па заслугах".

**ядань**

# Што чуваць у свеце вялікага бізнесу?

Намеснік міністра хлебапрадукцыі Рэспублікі Беларусь С. Мазалюк страціў сваё крэсла — паведаміла „Советская Белоруссия" (14 снежня 1993). Ніжэй прыводзіцца акалічнасці, якія паводле „Советской Белоруссии", давялі да адстаўкі міністра.

С. Мазалюк быў адказны за ажыццяўленне праграмы паставак збожжа з Казахстана ў Беларусь. Ягоны сын меў пасаду выканаўчага дырэктара фірмы „Казаграсервіс". Гэтая ж фірма ў снежні 1992 года закупіла ў Казахстане збожжа, якое перадала ў Асіповіцкі камбінат на перахаванне. 10 тысяч тон з гэтай пастаўкі закупілі па 112 долараў за тону Мінхлебпрадукты. 8 тысяч тон купіла польская фірма „Амега" (110 дол за тону), а затым 4 тысячы тон ізноў адпрадала беларускаму ураду, але ўжо па 117 дол. за тону. Рэспубліцы застаецца, каментуе „Советская Белоруссия", толькі падзякаваць С. Мазалюку, што не ўсё збожжа „промотал" ён праз польскую фірму.

Нам жа застаецца павіншаваць фірму „Амега". 28 тысяч долараў (гэтак яно атрымліваецца) — сума, у міжнародным бізнесе, можа і не надта вялікая, але ўлічыўшы, што рухавыя бізнесмены пэўна і на вочы гэтага збожжа не бачылі (яно ж ляжала сабе ў камбінаце)... клас! Ай, клас!

**(ам)**

Zarząd Związku Białoruskiego
w Rzeczypospolitej Polskiej
w Białymstoku, ul. Warszawska 11

# SPRAWOZDANIE FINANSOWE

o źródłach pozyskanych funduszy oraz o poniesionych wydatkach na cele wyborcze w wyborach do Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej przeprowadzonych w dniu 19.09.1993r.

I. 1. Komitet Wyborczy zarejestrował jedną okręgową listę kandydatów na posłów w okręgu wyborczym nr 4.

| II. Źródła pozyskanych funduszy | kwota w tys. zł. |
|---|---|
| 1. Środki pochodzące od tworzących komitet wyborczy: partii, organizacji politycznych, organizacji społecznych lub wyborców | - |
| 2. Środki własne kandydatów | 9000 |
| 3. Kredyt bankowy | - |
| 4. Pożyczki pozabankowe | - |
| 5. Zbiórka środków finansowych: | |
| — zbiórki publiczne | - |
| — darowizny | - |
| — w tym: darowizny przekraczające 10-krotność przeciętnego miesięcznego wynagrodzenia w sześciu podstawowych działach produkcji materialnej | - |
| — sprzedaż cegiełek na fundusz wyborczy | - |
| — sprzedaż znaczków, folderów, plakietek | - |
| — inne formy (wymienić) | - |
| Ogółem | 9000,- |

| III. Rodzaj wydatków poniesionych na cele wyborcze w wyborach do Sejmu. | kwota w tys. zł |
|---|---|
| 1. Funkcjonowanie komitetu wyborczego | 1000 |
| 2. Funkcjonowanie agend terenowych komitetu wyborczego: | - |
| 3. Opłaty za korzystanie ze środków masowego przekazu: | |
| — dzienniki i czasopisma | 5000 |
| —radio | 214,7 |
| —telewizja | - |
| 4. Wykonanie i rozprowadzenie: | |
| — plakatów wyborczych | 1049 |
| — wydawnictwa (folderów) | - |
| — ulotek, plakietek, znaczków, reklamówek | - |
| 5. Organizacja spotkań z wyborcami (wynajęcie sali, sprzętu, nagłośnienie itp.) | - |
| 6. Przejazdy kandydatów i osób towarzyszących | 225,6 |
| 7. Opłaty telefoniczne | 1010,7 |
| 8. Ogłoszenie sprawozdania | 500 |
| Ogółem | 9000 |

Oświadczam, iż stosownie do postanowień art. 153 Ordynacji wyborczej do Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej środki finansowe przeznaczone przez komitet wyborczy na prowadzenie kampanii wyborczej nie pochodziły z: budżetu państwa; od państwowych jednostek organizacyjnych; z budżetu jednostek samorządu terytorialnego, związków komunalnych i innych komunalnych osób prawnych oraz sejmików samorządowych; od przedsiębiorstw państwowych, a także podmiotów gospodarczych z udziałem Skarbu Państwa, jednostek samorządu terytorialnego, związków komunalnych oraz innych komunalnych osób prawnych; od podmiotów korzystających z dotacji Skarbu Państwa; od osób zagranicznych w rozumieniu przepisów prawa dewizowego.

Zbiórki publiczne odbywały się zgodnie z ustawowymi przepisami o zbiórkach publicznych.

Białystok, dnia 17.12.1993r.

**PIOTR JUSZCZUK**

Komitet Wyborczy Prawosławnych
Białystok ul. Antoniuk Fabr. 13

# SPRAWOZDANIE FINANSOWE

o źródłach pozyskanych funduszy oraz o poniesionych wydatkach na cele wyborcze w wyborach do Senatu Rzeczypospolitej przeprowadzonych w dniu 19.09.1993 r.

I. 2. Komitet Wyborczy zarejestrował jednego kandydata na senatora w okręgu wyborczym, obejmującym województwo białostockie.

| II. Źródła pozyskanych funduszy | kwota w tys. zł. |
|---|---|
| 1. Środki pochodzące od tworzących komitet wyborczy: partii organizacji społecznych lub wyborców | - |
| 2. Środki własne kandydatów | 5.500 |
| 3. Kredyt bankowy | - |
| 4. Pożyczki pozabankowe | - |
| 5. Zbiórka środków finasowych: | |
| zbiórki publiczne | - |
| — darowizny | 17.446 |
| — w tym: darowizny przekraczające 10-krotność przeciętnego miesięcznego wynagrodzenia w sześciu podstawowych działach producji materialnej | - |
| — sprzedaż cegiełek na fundusz wyborczy | - |
| — sprzedaż znaczków, folderów, plakietek | - |
| — inne formy (wymienić) | - |
| Ogółem | 22.946 |

| IV. Rodzaj wydatków poniesionych na cele wyborcze do Senatu | kwota w tys. zł. |
|---|---|
| 1. Funkcjonowanie Komitetu Wyborczego | 260 |
| 2. Funkcjonowanie agend terenowych komitetu wyborczego | - |
| 3. Opłaty za korzystanie ze środków masowego przekazu | 1.940 |
| 4. Wykonanie i rozprowadzenie: | |
| — plakatów wyborczych | 6.036 |
| — wydawnictw (folderów) | - |
| — ulotek, plakietek, znaczków, reklamówek, itp. | 13.400 |
| 5. Organizacja spotkań z wyborcami (wynajęcie sali, sprzętu, nagłośnienie itp.) | 360 |
| 6. Przejazdy kandydatów i osób towarzyszących | 450 |
| 7. Ogłoszenie sprawozdania | 500 |
| Ogółem | 22.946 |

Oświadczam, iż stosownie do postanowień art. 153 Ordynacji wyborczej do Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej środki finansowe przeznaczone przez komitet wyborczy na prowadzenie kampanii wyborczej nie pochodziły z: budżetu państwa; od państwowych jednostek organizacyjnych; z budżetu jednostek samorządu terytorialnego, związków komunalnych i innych komunalnych osób prawnych oraz sejmików samorządowych; od przedsiębiorstw państwowych, a także podmiotów gospodarczych z udziałem Skarbu Państwa jednostek samorządu terytorialnego, związków komunalnych oraz innych komunalnych osób prawnych; od podmiotów korzystających z dotacji Skarbu Państwa; od osób zagranicznych w rozumieniu przepisów prawa dewizowego.

Zbiórki publiczne odbywały się zgodnie z ustawowymi przepisami o zbiórkach publicznych.

Białystok, dnia 16.12.1993 r.

**ALEKSY MULARCZYK**

# „ЦУД"?

Кажуць — цудаў няма. Няпраўда! Што, не верыце? А загляньце ў „Ніву" ад 12 снежня 1993 г.! На першай старонцы — здымак каплічкі каля Старога Беразова. Як жа ж яна там знайшлася? Ніхто не ведае. Адзін, можа, толькі фатограф! Гэтая каплічка якраз з вёскі Горнае, што каля Гайнаўкі (цяпер гэтая вёска — адна з гайнаўскіх вуліц). Раней каплічка ў канцы вёскі стаяла, перашкаджала, аднак, дарожнаму руху. Тады яе перанеслі ў другі канец вёскі, недалёка чыгуначных пуцёў з Гайнаўкі ў Бельск. Але ж, як бачым, фатограф здымаў яе каля Нова-га-Беразова. Несумненна, гэта цуд, бо каплічка надалей стаіць на сваім месцы, каля Горнага! Не жартую! Да першага красавіка яшчэ далёка!

**ГРЫША МАРОЗ**

# ЯЎРЭІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ

Мэтай папскіх крыжовых паходаў было заваяванне Святой зямлі. Адным з метадаў гэтай барацьбы стала інквізіцыя, створаная Каталіцкім касцёлам у XIII стагоддзі. Уплывы Касцёла на структуры дзяржаў Еўропы спрыялі інквізіцыі і прымусілі іншаверцаў ды няверных, у разуменні каталіцкага кліру, шукаць ратунку. Датычыла гэта перад усім яўрэяў, якія ад паловы XIII стагоддзя эмігравалі на ўсход, ды, мінуўшы межы каталіцызму, пасяляліся на беларускіх землях у Вялікім княстве Літоўскім. Вялікі князь Вітаўт бачыў карысць ад прышэльцаў для гаспадаркі княства, а народ з прыхільнасцю ды зацікаўленнем успрымаў прынесеныя навінкі ў галіне рамяства ды наогул культуры. Прыхільныя ўмовы для імігрантаў замацавалі іх на беларускіх землях на працягу стагоддзяў. Поўная талерантнасць пад панаваннем Вітаўта часткова адмянілася насільным насаджваннем каталіцызму ў ВКЛ Уладзіславам Ягайлам. Аднак наплыў яўрэйскага капіталу, рамяства і ўмелага гандлю схіліла Ягайлу і наступных каралёў да талерантнасці ў адносінах да прышэльцаў, да заахвочвання іх да гаспадарчай дзейнасці, а нават да стварэння ім прывілеяў. Апрача эмігрантаў з багатых сфераў, з якімі наплываў капітал, ад канца XV стагоддзя з захаду насілілася эміграцыя і бядоты.

Яўрэі апанавалі асноўныя рамёствы: шавецтва, кравецтва, рымарства. У XVII стагоддзі шляхецкія сеймікі і мясцовае цэхавае рамяство адмоўна ставіліся да імігрантаў. З часам усё больш пашыраліся кругі бядоты сярод прышэльцаў, якія пранікалі насельніцтва мястэчак, гарадоў і на працягу вякоў сталі важным элементам структуры насельніцтва і яго развіцця ў гістарычных абумоўленасцях.

Гродна, населенае ў вялікай ступені яўрэямі ўжо Вітаўтам, стала адным з цэнтраў іх культуры. У першым дзесяцігоддзі XX ст., так як і Менск, налічвала яно каля 50% яўрэяў. Мела гэта ўплыў на эканамічнае і грамадскае жыццё горада. Доказам гэтаму, напрыклад, факт рашучага ўплыву на выбары гарадской рады ў 1920 годзе, ці арганізаванне Бундам першага ў Беларусі прафсаюза ў канцы XIX ст. З Гродна выйшлі ў свет вядомыя, зацікаўленыя лёсам Беларусі, людзі яўрэйскага паходжання, хаця б Барыс Клейн — аўтар кнігі, прысвечанай Беларусі і яе народу.

Паводле Э. Малішэўскага, у 1912 г. 15% насельніцтва Беларусі складалі яўрэі, а ў мястэчках наогул было іх больш за 40%.

Вядома, што ў згаданых абставінах развівалася культура яўрэйскага народа. Сотні тысяч людзей карысталіся ў Беларусі без перашкод і паўсюдна яўрэйскай мовай, карысталіся ўласнай свецкай і духовай культурай, развівалі сваё школьніцтва. У Валожыне каля паўтара стагоддзя працавала вядомая ў свеце ешыва — тальмудычная навучальная ўстанова. У канцы XIX і ў пачатку XX ст.ст. Беларусь стала галоўным асяродкам развіцця сучаснай яўрэйскай культуры і выдала больш паўтары сотні яўрэйскіх пісьменнікаў, паэтаў, публіцыстаў. Беларускія яўрэі стварылі літаратурную мову ідыш, якою карыстаецца ў свеце 17 мільёнаў людзей. Заснавальнік сучаснай яўрэйскай літаратуры Мэндэле-Мойхэр-Сфорым (Шолам Якаў Абрамовіч) паходзіў з мястэчка Капыль.

Працэс сужыцця на Беларусі яўрэйскага і беларускага этнасаў, узаемнага пранікання культур, культурнай спадчыны ўсё яшчэ чакаюць гістарычнага распрацавання. Аднак сімптомы некаторых навуковых пачынанняў могуць выклікаць сумненні. У чэрвені 1993 года ў Гродне адбылася чарговая навуковая канферэнцыя, прысвечаная вывучэнню гісторыі народаў Рэчыпаспалітай. У канферэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі зацікаўленых праблемай нацыянальнасцяў, не было там аднак прадстаўніка яўрэяў. У 1992 г. Ісак Шамір і Шымон Пэрэс пасля спаткання з кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь у Менску наведалі свае родныя вёскі, не скрываючы настальгіі па іх. Сарганізаванне жалобных урачыстасцяў з нагоды 50-ай гадавіны знішчэння яўрэйскага гета ў Менску, патранат урада РБ над імі як і над раней праведзенымі спатканнямі на могілках у Валожыне, з удзелам вядомых дзеячоў беларускай культуры, сведчаць аб пазітыўным стаўленні беларускіх кіраўнічых кругоў да яўрэйскага пытання ў Беларусі. Памысным з'яўляецца і той факт, што на Кангрэсе беларусаў свету „Бацькаўшчына" ў Менску ў ліпені 1993 г. мелі нагоду заявіць сваю эмацыянальную і культурную сувязь з Беларуссю прадстаўнікі Сусветнага згуртавання яўрэяў Беларусі з Нью-Йорка пад кіраўніцтвам сп. Гутмана, хаця прэса гэты факт неяк не адзначыла.

Падобныя адносіны да праблем яўрэяў і ў Польшчы, аб чым сведчыць праведзеная ў лістападзе 1993 г. дэкада яўрэйскай культуры „Шалом" у Варшаве, ці ранейшыя ўрачыстасці 50-годдзя паўстання ў беластоцкім гета. Тут, на жаль, не знайшлося месца грамадскаму прадстаўніцтву беларускай меншасці, ды і „Ніва" гэтае здарэнне замаўчала.

Аднак, нягледзячы на такія ці іншыя хібы, варта памятаць аб тым, што гісторыя Беларусі змяшчае ў сабе частку гісторыі яўрэйскага народа.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Вучні з Пасынак шлюць чытачам "Зоркі" найлепшыя святочныя пажаданні!* Фота Г. Кандрацюк

## ДАРАГАЯ „ЗОРКА”!

Пішуць табе вучні сёмага „а” класа Пачатковай школы ў Орлі. У нашай школе 25 снежня адбыліся школьныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Прымалі ў іх удзел амаль усе класы, разам дваццаць вучняў. Дэкламавалі вершы вядомых беларускіх паэтаў: В. Шведа, М. Багдановіча, Л. Геніюш, А. Барскага і іншых. Журы ў складзе: Анна Шыманская, Яўгенія Васілюк, Галена Адзіевіч вельмі высока ацаніла нашыя выступленні. Нам таксама конкурс падабаўся. На раённы агляд паедуць: Магдалена Мартыновіч, Эва Козак, Оля Рэнгайла, Моніка Сахарэвіч, Давід Грыгарук, Аня Бароўская, Ася Будко і Янка Бобік. Віншуем і жадаем ім поспехаў на раённым аглядзе!

**Вучні VII „а” класа**

## МАРОЗ ЧЫРВОНЫ НОС

Калісьці Мароз быў вельмі падобны да Дзеда Мароза, якога ставяць пад навагодняй ёлкай. І Мароз так любіў дзяцей, што нават не шчыкаўся. Але дзеці з яго насміхаліся, бо ў яго быў чырвоны-чырвоны нос. Як убачаць дзеці, што Дзед Мароз ідзе, бягуць за ім і прыгаворваюць: „Дзед Мароз, Чырвоны нос! Дзед Мароз, Чырвоны нос!”

Так яны дражнілі Дзеда Мароза, пакуль той не на жарт раззлаваўся. Аднойчы Дзед Мароз надзеў на галаву шапку-няўгледку, узяў чырвоную фарбу, пэндзлік і пайшоў па вуліцах. А дзеці не ўгледзелі, што Дзед Мароз ідзе. Макнуў Дзед Мароз пэндзлік у фарбу і пафарбаваў усім насы!

З той пары ён і ходзіць няўгледкам. А калі ў цябе зашчыкае нос, дык ведай — гэта Дзед Мароз яго ў чырвоны колер пэндзлікам фарбуе. Не верыш? Паглядзіся ў люстэрка.

**АЛЕНА КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА**

## ПЫХ-ЧМЫХ

Каб не гэтае нечаканае здарэнне, жыў бы ён сабе спакойна і ніхто б не даваў яму такой вясёлай мянушкі.

Знайшоўшы нару пад хатай і аблюбаваўшы яе пад жытло, ён адчуў сябе гаспадаром ва ўсім наваколлі. І чым далей, то смялей. Спярша выходзіў шукаць спажывы толькі ўначы, але, асвойтаўшыся, стаў знаёміцца і з дзённым жыццём і сваімі суседзямі.

Двор пільнавала Пальма, таму новы сусед не асмельваўся блізка падыходзіць да старой алавянай місы, у якую малы Цімашок часта выносіў з хаты то адзін, то другі пачастунак.

Начны госць асабліва ўдзень баяўся сабачага брэху, як і ўсякага шуму і гаму. Надта ж многа знаходзілася цікаўных. І калі толькі ўдавалася каму запыніць яго пасярод вуліцы або двара, дык тут жа збягаўся амаль цэлы натоўп гатовых папароць яго спадыспаду то якой трэскай, то дубцом, а то і перавярнуць дагары. Што з таго, што ён як мага шчыльней сціскаўся ў камячок і натапырваў усе свае іголкі, — прыемнага мала, калі цябе штурхаюць нагамі, нібыта ты які футбольны мяч. Вось чаму не любіў ён ні Пальмы, ні яе звягі, ні злоснага гыркання.

Затое, як яму здалося, больш лагоднымі былі кошка і кацяня.

Ім таксама выносілі ў місачцы і якраз жа часцей тое, што і яму было вельмі даспадобы — малачко.

Спачатку ён асцерагаўся падысці да місы, бо кошка станавілася страшней сабакі — шыпела, сыкала, поўсць на ёй уставала дыба, вочы гарэлі, а сама яна, падымаючы лапы, выпускала крывыя іголкі. Але госць не палохаўся яе іголак, бо ў яго гэтых іголак было болей. Таму так смела рынуўся ён у атаку. Кошка не вытрымала, голасна замяўкала і кінулася ў хату скардзіцца Цімашку. Яна, плачучы, церлася аб ногі, і хлопец здагадаўся, што ў яе бяда, выбег на двор. І сапраўды, чужынец ужо ў адкрытую наступаў на кацяня. А малое не здавалася, старалася ўтрымаць пазіцыю. Убачыўшы Цімашка, яно кінулася на свайго ворага і вострымі кіпцюрамі драпанула яму нос. Дапаўшы да місы, нязваны госць ад нечаканасці нейк дзіўна і смешна зафыркаў:„ Пых-чмых, пых-чмых!” — і Цімашок ад усёй душы зарагатаў. Цікава, што будзе далей?

Пакрыўджаныя, што гаспадар за іх не заступіўся, кошка з кацянём жаласна мяўкнулі ў адзін голас і ўскочылі на плот.

А ласуну-захопніку толькі таго і трэба было. Дапаўшы да місы, ён з прагнасцю, са смакам, прыцмокваючы язычком, пачаў хлябтаць малачко, якое ўсё ўбывала і ўбывала. Цімашка ён ужо не баяўся, хоць той раз-пораз заліваўся рогатам, чуючы пераможнае і такое радаснае: „Пых-чмых, пых-чмых!”

Апаражніўшы місу, госць цяжка адвярнуўся і пайшоў, не зважаючы ні на Цімашкоў смех, ні на жаласнае мяўканне кошкі з кацянём, ні на брэх Пальмы, якая, высунуўшы калматую галаву з будкі, з цікаўнасцю сачыла за гэтай неспадзяванай прыгодай.

Куды ж пайшоў наш госць — сыты і задаволены? Вядома, адпачываць пасля абеду. І толькі цяпер усе ўбачылі, што ён не чужы, не прыблудны і не выпадковы тут, а законны жыхар нашага двара. Падышоўшы да падмурка хаты і цяжка сапучы, ён ужо гатоў быў узлезці ў дзверы сваёй „спальні” — і ўлез, але толькі напалову. Далей не пускаў жывот. Як ні пыхцеў небарака, як ні тузаўся ўзад і ўперад — ні туды і ні сюды — засеў у самай сярэдзіне!

Прыйшлося таўстуну доўга чакаць, пакуль не спадзе, не пахудзее жывот.

Усе, хто глядзеў на гэту прыгоду, доўга пацяшаліся — і Цімашок, і кошка з кацянём, і сабака, і нават певень з чарадою курэй.

— Куды, куды? — пытаўся чубаты фарсун, паблісказаючы на сонцы сваім залатым грабянцом.

А Пых-Чмых ніяк не мог адказаць яму і вымавіць хоць адно слова: „Дадому”, бо зусім знямогся, выбіўся з сіл. Так яму абышлася залішняя прагнасць.

**ВАСІЛЬ ВІТКА**



## Вершы Віктара Шведа

### КАЛЯДА

Каляда, Каляда,
Каб хутчэй прыйшло змяркание!
Нас чакае ўжо звязда,
Распачнем калядаванне.

Мы, малая грамада,
Развучылі песень многа.
Каляда, Каляда,
Песнямі ўсяляем Бога.

Хоць марозіць — не бяда!
Маем мы настрой прыўзняты.
Каляда, Каляда,
Нараджэння Хрыста Свята.

### ВЫБАР

Мама просіць сына:
— Вымыйся старанна.
А сын праз хвіліну
Выглядае з ваннай.

— Мусіш выбраць, мама,
Гэта натуральна,
Чыстага Адама,
Ці чысты выціральнік!

### ЛЕКІ НА ПАХУДЗЕННЕ

Летнім ранкам у аптэку
Дабрадушны Ясь пайшоў.
Ён на пахудзенне лекі
Просіць для сваіх трусоў.

— У таблетачках надзея,
Іх нараіў добры дзед.
Тата ж кажа: „Патаўсцеюць,
Трусоў зварым на абед”.

### СЛОВА ГОНАРУ

Настаўнік запытаў Сярожу:
— Ці слова гонару даць можаш,
Што ў тваім сачыненні ў хаце
Не памагала табе маці?

— Я гонару магу даць слова —
Ад дапамозе няма мовы.
З чыстым магу сказаць сумленнем:
Пісала мама сачыненне.

### ЧАМУ НЕ БРЭША КРАПІВА?

Маму сваю пытаецца
Малы сыночак Фома:
— Ці крапіва кусаецца?
— Кусаецца, вядома.

— Расце такая шкодніца,
Пячэ горш галавешак.
Чаму ж яна, нягодніца,
Кусае, а не брэша?

### ПРАЎДА Ў ВОЧЫ КОЛЕ

— Хлусіш безупынна.
Ці ілгаць ты мусіш?
Кажы праўду, сыну!
— Тата, я баюся.

— Што ж цябе пужае,
Даражэнькі Коля?
— Ты ж мне паўтараеш:
„Праўда ў вочы коле”.

### ЗУБ ЗАСТАЎСЯ Ў ЛЕКАРА

Страшэнна мучыў многа дзён
Зубны боль хлопчыка малога.
З палёгкаю вярнуўся ён
Дамоў ад лекара зубнога.

— А не баліць ужо твой зуб? —
Тата сыночка запытаўся.
— Не ведаю, — сказаў Якуб, —
У лекара мой зуб застаўся.

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

**(8)**

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

## Палова мая — палова твая

Адзін з удзельнікаў называе склад, другі адразу ж дадае свой склад, каб атрымалася слова, напрыклад: па-ра, мо-ва. Атрымалася — другі называе склад, першы дадае свой; не атрымалася — першы прадаўжае гульню. Умовы: словы павінны быць двухскладовыя.

Перамагае той, хто ні разу не памыліцца. Ён і будзе пачынаць новы тур гульні з іншым складам.

Варыянты:

1. У гульні ўдзельнічаюць тры чалавекі: слова павінна мець тры склады. Цяжкасць у тым, што першы і асабліва другі павінны прадугледзець магчымасць заканчэння слова трэцім складам: *ма-ла-ко, маладзец, маладзік, малаец, маленькі, малпачка, мамачка, Манечка, маракі, масавы* і інш. У гэтым варыянце можа быць і больш за тры ўдзельнікі.

2. Колькасць удзельнікаў не абмяжоўваецца, кожны мае лісток паперы, загадзя падпісаны. На стале карткі, на кожнай — адзін склад; хто-небудзь выцягвае картку, паказвае ўсім склад, сядае на месца, і па сігналу вядучага (настаўніка) гульня пачынаецца: хто больш напіша слоў з гэтым пачатковым складам за дамоўлены час? Або наадварот: хто хутчэй напіша абумоўленую колькасць слоў (вядучы павінен загадзя падрыхтаваць для ўліку кантрольны лісток)? І яшчэ: можна дамовіцца, што склад будзе не першым, а другім.

## Ператварыць мыла ў шыла

Што для гэтага трэба зрабіць? Памылку пры чытанні. Але такія памылкі — непажаданая з'ява, значыць, нават гуляючы, трэба пазбягаць іх.

Для гульні трэба ўзяць лісты са сшытка для малявання. На кожным буйна напісаць слова. За 1 секунду яго трэба прачытаць. Вельмі добра скарыстаць для гэтай гульні кадаскоп або іншы дэманстрацыйны апарат.

Вядучы паказвае пяць слоў запар кожнаму ўдзельніку гульні, а той чытае іх. У гэты час памочнік вядучага адзначае ў загадзя зробленым спісе колькасць правільна або памылкова прачытаных слоў — плюсам або мінусам. Чытае вучань з месца, седзячы; за правільнасцю чытання сочаць усе, чыя чарга прайшла або не дайшла, і моўчкі падымаюць руку, калі не згодны з чытаннем. Тут адразу відаць, заўважылі яны памылку ці самі памыліліся. У першым выпадку асабліва актыўным можна прысудзіць дадатковыя балы, у другім — пажадаць як найхутчэй пазбавіцца ад памылак.

Гульня патрабуе вялікай пільнасці: карткі падбіраюцца такім чынам, што словы маюць і падабенства, і розніцу:

**гром, грам, град, грак, брак;**
**дзед, дзень, цень, пень, пена;**
**банка, ранка, ранак, ганак, гапак;**
**зрок, крок, краб, брак, брат;**
**рыба, рыжы, ружа, рука, рака; цёпла, цёмна, цётка, сетка, сеяць** і г.д.

Можна нават паказаць двойчы адно слова сярод пяці, але не запар, асабліва калі кожнае слова або асобныя літары будуць розных колераў, рознай канфігурацыі, памеру (скарыстаць для гэтага можна акварэльныя фарбы, гуаш, фламастэры, аплікацыі выразаных з каляровай паперы літар або са старых плакатаў, часопісаў і інш.).

Для другога тура карткі перамешваюцца, складаюцца ў стосы і зноў паказваюцца ўдзельнікам па пяць запар.

## „Каты" і „мышы"

Спачатку цягнуць жэрабя: каму быць „катамі" і каму — „мышамі", затым становяцца ў дзве шарэнгі.

Пачынаюць гульню „каты". Яны ловяць „мышэй" наступным чынам: адзін з „катоў" робіць тры крокі ўперад да адной з „мышэй". Але ў „мышкі" ёсць ратунак: пакуль „кот" набліжаецца, яна называе слова з трох літар (гук, ліс, дом, Іра, тут, два, наш, пень, дзед, лешч і да т. п.), акрамя слоў *кот* і *мыш*. Калі яна не паспее гэта зрабіць, „кот" яе „ловіць": бярэ за руку і ставіць за радам „катоў"; калі ж паспее — выходзіць з гульні „кот" і становіцца за радам „мышэй". Выбывае з гульні таксама і той, хто скажа забароненыя словы (*кот* і *мыш*), хто паўторыць слова, сказанае кімсьці раней у гэтым туры.

Цікава, хто застанецца пераможцам: апошні „кот" ці апошняя „мыш"?

Памяняўшыся месцамі, гульню можна працягваць.

*(Працяг у наступным нумары)*

*ВОЛЬГА ІПАТАВА*

## НОВЫ ГОД

Свята Новага года ў бары
Сустракаюць заўсёды звяры.
Будзе сёлета ім навіна:
Пошта ў лесе працуе! Яна
Кожны выканаць можа заказ.
Ёсць аб'ява:
„Прымаем ад вас
Мы заказы на магнітафон.
На пласцінку запіша вас ён,
Каб пачулі ваш голас сябры
У далёкім заморскім бары.
Лісты ж і паштоўкі
Купляйце ў Соўкі!
А тэлеграмы
Да цёткі, бабулі ці мамы
Пашле наш добры прыяцель —
Дзяцел!
Хутка Новы год на двары —
Прыходзьце на пошту, сябры!"
Пачалі ўсе пісаць лісты.
Толькі шэры Воўк — у кусты.
— Гэй, чаму ты не пішаш, Воўк?
Ён зубамі сярдзіта — шчоўк!
— Я кусацца магу. А тут
Ліст пісаць — колькі трэба пакут.
Дый сяброў у мяне няма,
Так што вы не турбуйце дарма! —
Новы год сустракае ўвесь лес.
Маладзік на яліну узлез
Снег бліпічыць на галінках, і ўсе
Рады гэткай красе.
Паштальёнам-варонам шмат спраў —
Кожны сёння пісьмо атрымаў:
І Мядзведзь, і Дзікі, і Ліска —
Ад сяброў далёкіх і блізкіх.
Усе чытаюць свае паштоўкі.
Аднаму толькі сумна Воўку.
Ні паштоўкі яму, ні пісьма,
Быццам Воўка у лесе няма!
Воўк завыў:
— Дзе вы, дзе вы, сябры?
Толькі рэха ідзе па бары...

## ЛАГАГРЫФ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | |
| 2 | | | | | | |
| | 3 | | | | | |
| 4 | | | | | | |
| | 5 | | | | | |
| 6 | | | | | | |
| | 7 | | | | | |

1. артыст, аўтар мастацкіх твораў, 2. сталіца Расеі, 3. цішыня 4. круціцца, калі дзме вецер 5. небяспечнае, глыбокае балота, 6. мястэчка на ўсходзе Беласточчыны, адтуль папулярная мінеральная вада, 7. сталіцай гэтай дзяржавы з'яўляецца Рым.

Літары, якія знойдуцца ў вылучаным вертыкальным радку, складуць прозвішча выдатнага гуманіста эпохі Адраджэння.

## З МУЗЕЯ ВАСТРАСЛОЎЯ

Не кожны, хто смяецца, сябра.

Хто ўстае са злосцю, сядае са стратаю.

Адзін бацька пракорміць дзевяць сыноў, але дзевяць сыноў не пракормяць аднаго бацьку.

Вочы — гэта акно для сэрца.

Гультай і хацеў бы з'есці арэх, але нада тта ўжо неахвота разбіваць шкарлупку.

<u>ДЛЯ ДЗЯЎЧЫНАК</u>

## БІЖУТЭРЫЯ СВАІМІ РУКАМІ

Матэрыял для пацерак, бранзалетаў, кулонаў — гэта насенне яблыка, дыні, кавуна, перцу, акацыі, зерне кукурузы, фасолі, гароху, плады шыпшыны, жалуды.

Пацеркі можна зрабіць з аднаго віду насення або з некалькіх, чаргуючы іх па колеру, велічыні. Пацеркі нанізвайце на нітку, пакуль яны не высахлі, папярэдне зрабіце ў іх адтуліны тонкім шылам. Калі ж высахнуць, палажыце на 1—2 дні ў слоік з вадой, каб яны сталі мяккімі і не раскалваліся. Арыгінальныя пацеркі і бранзалеты атрымліваюцца з костачак слівы, вішні, абрыкоса. Адтуліны зрабіце тонкім свердлам. Прыгожыя пацеркі можна зрабіць з галінак язміну, чорнага бэзу, іншых раслін, якія маюць рыхлы асяродак.

Роўную сухую палачку ачысціце ад кары, добра адшліфуйце дробнай наждачнай паперай. Нарэжце парную колькасць пацерак, тарцы пацерак таксама адшліфуйце. Пракаліце адтуліны з тарца. Можна таніраваць пацеркі, а затым пакрыць іх лакам. Нанізаць пацеркі лепш на тоўстую ваўняную нітку. Лепш размясціць іх адна ад адной на адлегласці 1—1,5 сантыметра, тады і нітка будзе дэкаратыўным элементам. Можна аддзяляць адну пацерку ад адной, завязваючы перад кожнай вузельчык. У сярэдзіне ўпрыгожце пацеркі кутасікамі з нітак таго ж колеру або кулонам з прыроднага матэрыялу. Прыгожае кальє атрымліваецца са спілаў маньчжурскіх арэхаў. Спілы рабіце таўшчынёй 3 міліметры. Нанізыце на дзве параленыя ніткі, прасоўваючы іх у сіметрычныя адтуліны ў спіле.

**К. НОВІКАВА**

<u>Паглыбляй свае веды</u>

## АНДАТРА

Андатра, ці мускусны пацук, — невялікі пушысты звярок з голым, пляскатым з бакоў хвастом, „ураджэнец" Паўночнай Амерыкі, адкуль быў завезены ў Еўропу ў дваццатыя гады. Звярок паспяхова акліматызаваўся і засяліў вялікую тэрыторыю Беларусі. Ён праводзіць палову жыцця пад вадой, выдатна плавае і ныра, здольны знаходзіцца пад вадой да 12 хвілін. Доўгі хвост служыць андатры рулём. Лапкі не маюць плавальнай перапонкі, як у бабра, але пальцы задніх лап маюць цвёрдую шчаціністу ablяможку. Яны дапамагаюць заграбаць ваду. Звярок засяляе ціхія, з багатай воднай і балотнай расліннасцю рэкі, азёры, балоты, корміцца сцяблінкамі і парасткамі асакі, чароту, трыснягу, рагозу, каранямі і карэнішчамі жоўтых і белых гарлачыкаў і іншых раслін.

У забалочаных месцах, на вадаёмах з нізкімі берагамі, на затанулы корч, тарфяную купіну або на заломы трыснягу звяркі нацягваюць балотныя расліны, галлё. Унутры гэтых куч яны будуюць гнёзды (адно або некалькі), выхады з якіх вядуць у ваду. Там жа знаходзіцца і кармавая камора. Зімой у такіх хатках, занесеных снегам, цёпла.

На стромкіх берагах андатра робіць норы. Даўжыня нары залежыць ад вышыні берага: у нізкіх месцах яна дасягае 20 метраў, у высокіх — 5. Уваход у нару і ў хатку заўсёды знаходзіцца пад вадой, каб туды не залезлі драпежнікі.

Андатра вядзе актыўнае жыццё на працягу ўсёй зімы. Наверх выходзіць вельмі рэдка, запасаў корму не робіць, таму зімой паядае ўсё, што здабывае пад лёдам.

Размнажаецца вясной. За лета можа мець 2—3 вывадкі, па 7—8 дзіцянят у кожным.

Непатрабавальнасць да корму, здольнасць кожны год даваць патомства і без цяжкасцей пераносіць суровыя зімы, а таксама выдатныя якасці скуркі (мяккая, густая, не прамакае ў вадзе) сталі прычынай заводу і акліматызацыі гэтага звярка. Андатра з'явілася ў Беларусі ў пасляваенныя гады ў Брэсцкай вобласці, спачатку ў прытоках Заходняга Буга, куды яна трапіла з Польшчы.

**А. КУРСКОЎ**

*Зазнач месцы, у якіх заўважыш адрозненні ў малюнках.*

# ПРАЗ ЖЫЦЦЁ З ЦАРКОЎНЫМ ХОРАМ



Адным з найстарэйшых жыхароў Белавежы з'яўляецца Цімафей Бушко. Нарадзіўся ён яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя, а дакладна — 21 лютага 1898 г. У адну з лістападаўскіх нядзель г.г. я наведаў сп. Бушко ў кампаніі паэта Барыса Руско, які, як і я, дужа зацікаўлены мінулым Белавежы.

Цімафей Бушко, як на свае гады, зусім яшчэ спраўны мужчына. І памяць у яго добрая — пра шматлікія даўнія здарэнні расказвае дэталёва, быццам быў іх удзельнікам ці назіральнікам тыдзень або месяц таму.

Ідучы на сустрэчу, узялі мы з сабой здымак, выкананы ў Белавежскай царкве яшчэ ў царскія часы (дарэчы, ён быў апублікаваны ў „Ніве" н-р 1 ад 3 студзеня 1993 г.). Гаспадар вокамгненна пазнае на ім а. Міхала Шырынскага і дыякана Міхала Рафаловіча, што адначасова працаваў пісарам ва Управе Белавежскай пушчы.

— Псаломшчыка, — паясняе наш размоўца, — белавежскі прыход у той час не меў. Заступаў яго дзячок Гвай.

Цімафей Бушко ўжо ў школьныя гады звязаўся з царкоўным хорам. Спачатку спяваў у хоры школьнікаў. Потым рэгент Рутаў (пры нагодзе — ён ажаніўся з белавежанкай Елізаветай Байко з Падалянаў II) выбраў іх пецярых, найбольш здольных, у царкоўны хор дарослых. У дваццатыя гады царкоўным спевам белавежцаў вучыў прафесар Раманаў, які адначасова быў рэгентам. Цімафей Бушко ў хоры пазнаёміўся з Анастасіяй Валкавыцкай, з якой і ажаніўся ў 1924 г. Спяваў ён да паловы сямідзесятых гадоў, значыць дагэтуль, калі мог.

— Перад I сусветнай вайной, — вяртаецца думкамі ў свае дзіцячыя гады сп. Цімафей, — я закончыў чатырохкласную народную школу, якая змяшчалася ў Шпаковіча, у доме, дзе зараз жывуць Харольскія. Настаўнікам у ёй быў Кудрэйка, настаўніцай жа Кацярына Сямёнаўна. Потым, у 1912 г. закончыў двухкласную школу, што змяшчалася на Заставе (настаўнікам у ёй быў Лазоўскі).

— Раскажыце нам дакладней пра гісторыю белавежскай царквы. Вы ж з ёй былі звязаны амаль цэлае вашае жыццё, — просім дзядулю.

— Нам у школе казалі, — пачынае ён, — што першая царква ў Белавежы стаяла ля броўскай дарогі, там дзе зараз стаіць праваслаўны крыж. Наступная царква, драўляная, была збудавана непадалёку цяперашняй. Зараз на гэтым месцы расце сад, але там, дзе знаходзіўся прастол — месца абазначанае. У васьмідзесятыя гады XIX ст. царква ўжо пахілялася, яе падпіралі каламі. Вялікі князь Мікалай Мікалаевіч, знаходзячыся аднойчы ў Белавежскай пушчы на паляванні, пастанавіў наведаць тутэйшы храм. Застаўшы яго ў такім жудасным выглядзе, пасля вяртання ў Пецярбург даў загад збудаваць новую, мураваную царкву. Пачалі яе будаваць за царом Аляксандрам III, а закончылі пры Мікалаю II. Пасвячэнне, вельмі ўрачыстае, адбылося тры гады да майго нараджэння, значыць, у 1895 г. Іканастас зрабілі ажно ў 1909 г. Цар Мікалай II даў кітайскую кераміку, якой у той час быў нейкі запас у Пецярбургу.

— А што сталася са старой, драўлянай царквой? — пытае Барыс Руско.

— Яе прадалі ў Ялоўку, — чуем у адказ. — У якім годзе гэта было, не ведаю. Я сам той царквы не памятаю. Не ведаю таксама, колькі ўзялі грошай. Памятаю толькі, што на новую царкву нехта ахвяраваў аж 134 рублі. У жніўні 1915 г., калі ўсе ўцякалі ў глыб Расіі, забралі з сабой і царкоўнае аснашчэнне. Знялі таксама звон, вагою ў 120 кг. Ён не пралазіў праз акно званіцы і тады разабралі крыху мур ды звон спусцілі па жэрдках уніз. Звон гэты так і не вярнуўся ў Белавежу. Цяперашні звон важыць усяго 35 кг.; яго купілі ў 1974 г.

У бежанстве сп. Бушко закончыў (у Гомелі) добраавотніцкія курсы. У Белавежу вярнуўся 22 мая 1919 г. Нейкі час працаваў пільшчыкам у лесе, затым штабельшчыкам у тартаку на Стачку. Калі тартак, пасля пажару, перанеслі ў Гайнаўку, сп. Цімафея, разам з іншымі працаўнікамі, перакінулі на перагрузачны пункт. За „саветаў" быў адным з намеснікаў начальніка леспрамхоза Петракова. Займаўся вярбоўкай людзей на працу з ваколіц Бельска, Галадоў, Чыжоў. Потым перанеслі яго ў Белавежскае надлясніцтва, да надляснічага Багдановіча. А потым прызвалі ў армію, адпраўляючы на курс радыётэлеграфістаў у Маскву. Пасля курсаў сп. Бушко трапіў у Паневеж, дзе яму ўдалося перадаць паведамленне, у якім называўся дакладны час нападзення немцаў на СССР.

— А як гэта было з бамбардзіраваннем немцамі 1 верасня 1939 г. белавежскай царквы? — пытаю нашага размоўцу.

— Што ж, — адказвае ён, — паявіўся раптам над Белавежай адзін самалёт. Над храмам скінуў ён тры бомбы. Адна з іх збурыла сцяну ад поўначы, другая ўпала пад фундамент і нічога не пашкодзіла, а трэцяя трапіла ў барак, што знаходзіўся непадалёку. Вядома, знішчыла яго, але і адначасова забіла хлапца, які якраз сек дровы. Айцец Пушкарскі паклаў шмат намаганняў, каб давесці царкву да адпаведнага выгляду. Ужо за нямецкай акупацыі ў Берлін адправілася з Белавежы спецыяльная дэлегацыя, прасіць нямецкія ўлады дазволу на будову і атрыманне матэрыялаў. Ездзілі Іван Смактуновіч і Аляксей Валкавыцкі. Яны апрануліся па-тутэйшаму, абулі лапці з лыка. І свайго дабіліся! Айцец Пушкарскі выпрасіў ад інспектара і дырэктара, што працавалі ў парку, цэмент, вапну, шкло. Працамі кіраваў Іван Смактуновіч. Памятаю, што цэглу прыдбалі, разбіраючы мураваны хлеў, які знаходзіўся непадалёку царквы. Калі ўжо ў 1944 г. надыходзілі савецкія войскі, двух немцаў хацелі ўцягнуць на царкоўную званіцу кулямёт, каб магчы лепш астрэльвацца. Айцец Пушкарскі ледзь іх упрасіў, каб гэтага не рабілі. Рускія ж маглі б збурыць храм дашчэнту!

Пасля вызвалення Белавежы ад немцаў Цімафей Бушко спачатку ездзіў па навакольных вёсках padзарабляць, будуючы людзям клуні, хлявы. Потым, калі ў Белавежы пачалася арганізацыя „Самапомач хлопская", неўзабаве заняўся ў ёй скупкай сельскагаспадарчых прадуктаў. Пасля 14-гадовай працы перайшоў на пенсію.

— Бацька, — нечакана ўключаецца ў размову дачка сп. Цімафея, — раскажы, як ты ў царскія часы служыў у „пацешным войску".

— А-а-а, — усміхаецца дзядуля, — гэта было ў 1912 г. Напрканцы лета ў Белавежу меў завітаць цар з сям'ёй. Перад гэтым, у красавіку, прыехаў да нас паручнік са зводным. Выбраў 35 школьнікаў (меў падабраць 40, але не было з каго), сярод якіх і я апынуўся. Нам пашылі светла-зялёныя кашулі і штаны, далі таксама вінтоўкі з дрэва. Вайсковае абучэнне праходзілі мы два дні ў тыдзень. Калі пыталі мы паручніка, навошта ўсё гэта, ён адказваў, што для забавы, а адначасова і абучэння ў вайсковай муштры царэвіча Аляксея. На жаль, нічога з гэтых планаў не выйшла. Нейкага дня, плаваючы лодкай па ставе, царэвіч Аляксей хацеў сарваць водную лілею. Пахіляючыся над бортам, страціў раўнавагу і ўпаў у ваду. Сторож Кірыла Шпаковіч, які вазіў царэвіча, хутка выцягнуў хлопчыка і занёс у палац. Аляксей прастудзіўся, моцна захварэў. Кажуць, што сцягнулі тады нават Распуціна, які прыляцеў самалётам. Неўзабаве царская сям'я пакінула Белавежу, ад'язджаючы цягнікам. Была гэта апошняя царская пабыўка ў пушчы. Нашае „пацешнае войска" распусцілі.

Мы яшчэ шмат чаго цікавага даведаліся ад сп. Цімафея пра мінулае Белавежы, але пра гэта напішу пры іншай нагодзе.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Эрнеста Валкавыцкага**

# РАЖДЖАСТВО ХРЫСТОВА



У гэты дзень успамінаем і ўсхваляем нараджэнне целам Госпада нашага Ісуса Хрыста ад Прасвятой Дзевы Марыі. Царква, умацоўваючы нас у веры ў тайну ўвасаблення Сына Божага і выяўляючы ератыкаў, якія сапсавалі гэтую догму, прадстаўляе ў песнях гэтае свята як дзень паўсюднай радасці. Навучае яна нас таксама намагацца жыць так, каб быць вартымі народжанага Госпада. Раждджаство Хрыстова з IV стагоддзя на Усходзе і Захадзе святкавалі 25 снежня (цяпер 7 студзеня па ст. стылю). У заходняй частцы Імперыі гэтая традыцыя была старэйшай, але гэта не абазначае, што не святкавалі яго на Усходзе. Там адзначалі яго тады 6 студзеня (цяпер 19 студзеня па старому стылю) як Богаяўленне, якое спалучала ў сабе Раждджаство і Хрышчэнне Хрыста, а таксама некалькі іншых здарэнняў. Аднак асноўнай думкай было з'яўленне Бога ў целе. Адной з прычын святкавання гэтых здарэнняў 6 студзеня было прызнанне яго днём сімвалічнай сувязі першага Адама з Другім Адамам — Хрыстом. Першы — прычына граху і смерці — быў створаны і памёр 6 студзеня, менавіта ў першым месяцы года, таксама як нарадзіўся і памёр Другі Адам — уладар жыцця і збавення. Менавіта ў такі сімвалічны спосаб разумела гэтае старажытная Царква. Дата 25 снежня (7.01. ст. ст.), пачынаючы з IV стагоддзя, з'яўляецца датай асаблівага ўспамінання самога Раждджаства Ісуса Хрыста. Сапраўдная дата нараджэння Збавіцеля невядомая. У гэтым месцы варта ўсвядоміць, што на працягу звыш тысячагоддзя была гэта супольная дата для ўсіх хрысціян. Толькі ў 1582 годзе па ініцыятыве папы Рыгора XIII быў створаны новы каляндар (стыль), названы грыгарыянскім. У розных краінах прынялі яго не ў адным часе.

За выключэннем Пасхі, Раждджаство Хрыстова святкуецца найбольш урачыста і трыумфальна. Святы Іаан Златавуст называе яго „маці ўсіх святаў" і гаворыць, што калі б не было Раждджаства, не было б ні Уваскрэсення, ні Узнясення, ні Пяцідзесятніцы. З днём Раждаства Хрыстова звязана ўстанаўленне царкоўнага календара шляхам натуральнага назначэння датаў такіх святаў, як хаця б Благавешчанне, Абразанне, Стрэчанне. У царкоўных кнігах завуць яго „трохдзённай Пасхай". Раждджаству Хрыстоваму папярэднічае пяць перадсвяточных дзён (асабліва посных), а пасля свята — шэсць пасласвяточных дзён.

**С. Н.**

 

**ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ**

# УЦЁКІ

— 2 —

## Першая ноч уцёкаў

Цёмна і ціха навокал. Ляжу я ўжо не ў гнілой саломе, поўнай вошай, у пуні, а ў духмяным сене на вышках хлява незнаёмага мне баўэра. Побач мяне спяць Валянцін і Пэтэр. Нехта ўвайшоў на вышкі з другой стараны, скінуў коням сена на драбінкі і сышоў. Але да нас не падыходзіў. Я прабягаю ў думках увесь мінулы дзень і ноч. Як заўсёды, абудзілі нас а шостай гадзіне раніцы і мы, хутка напіўшыся чорнай кавы і абмыўшыся ёю, нявыспаныя, накіраваліся ў групах пад канвоем капаць акопы. Сцераглі нас салдаты СА з вінтоўкамі ў руках. Процітанкавыя акопы былі шырокія і глыбокія (метры тры) і капалі мы іх рыдлёўкамі. Каля 10-ай гадзіны прыйшоў нейкі афіцэр і пачаў здзеквацца. Калі здалёк прыкмеціў, што нехта павольна выкідае пясок з акопа, падыходзіў і біў яго па галаве, па твары. Я пабаяўся, каб ён мне не пакінуў след нагайкі на твары і я хутка выйшаў з акопа і лёг на траву ля хворых і прыкінуўся, што ў мяне баліць жывот. Да хворых ён не падыходзіў, а ляжала нас там 6 чалавек. Хутка забралі нас і адвялі да фельчара. Ён узяў маю руку і пачаў правяраць мой пульс. Пасля паглядзеў на мяне строга і сказаў: „Willst du in das Maul bekommen?” (Ці хочаш атрымаць па мордзе?). Я здзівіўся і адказаў: „Ich habe nur den Bauchschmerz” (Мне толькі баліць жывот). „Ach so!” (Ах, так!), — замычаў ён, на хвіліну адыйшоў, прынёс мне нейкія жоўтыя пілюлькі і выпісаў звальненне ад працы на тры дні. Камень зваліўся мне з сэрца. Я баяўся, каб ён не выявіў маю сімуляцыю. Я прыйшоў у пуню і прыгатаваў усё неабходнае. Калі вечарам прыйшлі Валянцін і Пэтэр, мы хутка з'елі суп, узялі наш паёк і чамаданы і выйшлі за пуню. Там ускочылі ў акоп, які цягнуўся недалёка пуні і пабеглі ім метраў дзвесце, да канца. Там пачакалі аж зусім сцямнее, пaглядзелі, што ля нашай пуні ціха і нікога няма, мы выйшлі з акопа, намачылі і выставілі палец, каб даведацца, з якога боку дзьме вецер і абралі кірунак нашай дарогі. Ішлі мы цераз замерзлае поле на паўночны захад. Калі мы прайшлі кіламетраў тры, заўважылі нізка над зямлёй тэлефонныя драты.

— Тут дзесьці павінна быць войска! — запанікаваў Валянцін.

Пераступілі мы спакойна некалькі тэлефонных ліній і ў цемры напароліся на плот з дроту (некалючага). Па другім баку дроту была дарога, а за ёю зноў плот з дроту. Калі мы ступілі на дарогу, пачулі нейкія крокі. Валянцін і Пэтэр кінуліся ўцякаць і перайшлі плот з другога боку дарогі. Пачуўся крык: „Halt!” Уцякаць не было сэнсу, бо могуць страляць і зробяць аблаву. Я затрымаўся і крыкнуў ім: „Вяртайцеся, няма сэнсу ўцякаць!” Падышоў да нас нехта ў вайсковым чорным мундзіры з пілоткай на галаве. У цемры не вельмі бачна было, хто ён. Салдат востра запытаў: „Wohin gehen sie?” (Куды ідзеце?) Я адразу яму адказаў: „Wir suchen ein Haus zu übernachten” (Мы шукалі дома, каб пераначаваць). „Wollen sie übernachten? — сказаў ён — Kommen sie mit!” (Вы хочаце пераначаваць? Ідзіце са мной). Далей мы ішлі за ім і ён увесь час маўчаў. Валянцін вельмі хваляваўся. Я яму толькі шапнуў, каб ён не адзываўся і немцу нічога не гаварыў. Я з іх найлепш ведаў нямецкую мову, бо вучыўся яе ў школе і ў майго баўэра я працаваў з двума яго сынамі і ўвесь час з імі гутарыў падчас працы.

Мы ішлі моўчкі да скрыжавання нашай дарогі з шашой. Там стаяў дом, а далей відаць было вёску. Наш канваір нешта крыкнуў і з-за вугла дома выйшаў нямецкі салдат з вінтоўкай.

— Я прывёў тут нейкіх людзей, якіх спаткаў на дарозе і яны мне гавораць, што шукаюць месца на начлег, — сказаў наш канваір і пайшоў.

Ля дома свяцілася электрычная лямпачка і цяпер можна было разгледзець і нашага былога апекуна і салдата. Салдат падышоў бліжэй, прыгледзеўся нам і запытаў:

— Адкуль вы?

Я адказаў:

— Мы ля самага фронту капалі акопы і папалі пад рускі абстрэл і нас адпусцілі да нашых старых месцаў працы. Мы ўжо трэці дзень ідзем у кірунку Гайльсберга, а цяпер шукаем месца, каб недзе пераначаваць.

— Bist du Deutsche? (Ты немец?), — запытаў ён.

Мяне гэта здзівіла. Гаварыў я някепска па-нямецку, але пазнаць па мове, што я не немец было няцяжка: „Nein! — адказаў я — Ich bin ein Belorusse”. (Не! Я — беларус).

Ён падумаў хвіліну, вывеў нас на шашу, паказаў у бок Растэнбурга і сказаў:

— Ідзіце гэтай шашой да горада. Там у горадзе такіх, як вы, ёсць многа. Там запытайцеся і вам пакажуць, кудыісці і там дадуць вам месца на начлег.

Я быў здзіўлены гэтай прапановай і вельмі яму падзякаваў. Яму, відаць, не хацелася мець з намі ніякага клопату. Мы пайшлі па шашы ў кірунку Растэнбурга, аглядваючыся ці нехта за намі не сочыць. Мы ішлі ўздоўж малой вёскі, але людзей нідзе не было відаць. Мы адышлі ад салдата метраў з 200, павярнулі ў поле і выбралі напрамак нашых уцёкаў на падставе кірунку ветру. Я меў на нагах боты з драўлянай падэшвай і вельмі цяжка было ісці ў іх па замёрзлых скібах. Не раз падаў, калі ў цемры кепска ступіў.

Цераз гадзіну натрапілі мы раптам на досыць шырокую рэчку. Было вельмі холадна, каб яе перайсці. Кіламетраў тры ад нас была нейкая шаша, бо па ёй ехалі аўтамабілі. Там напэўна быў мост, але яго маглі сцерагчы салдаты. Мы пайшлі ўздоўж ракі ў пошуках моста. І раптам згледзелі нейкі хутар на другім беразе рэчкі і вузкую кладку. Па ёй мы прайшлі рэчку, абышлі хутар і накіраваліся далей. З хутара забрахаў сабака, ды хутка заціх. Цераз гадзіну выйшлі мы на шашу. Яе кірунак быў згодны з кірункам нашага маршрута. Ісці было намнога лягчэй, чым полем. З дарожнага паказальніка мы даведаліся, што ідзем у напрамку Бартэнштайна (цяпер Бартошыцы). Мы пастанавілі ісці ў гэтым напрамку, а пасля павярнуць на Гайльсберг. Калі мы бачылі, што едзе нейкая аўтамашына, сходзілі з шашы ў роў, лягалі і чакалі пакуль яна не праедзе. Нейкую чыгуначную станцыю абышлі мы полем. На світанку трэба было недзе схавацца. Мы пастанавілі знайсці стог саломы, якія немцы рабілі пасля малацьбы збожжа, і ў ім дзень праспаць, а ноччу ісці далей. Мы прыйшлі ў маленькую вёску, але нідзе не было ніводнага стога. І раптам бачым, што нехта ад боку шашы выкідвае з хлява на кучу гной. У хляве гарэла электрычная лямпачка. Падыходжу я бліжэй і бачу маладога чалавека з літарай „Р” на грудзях. Значыць, паляк. Прывітаўся я з ім па-польску. Ён збянтэжыўся, пачнае са мной гаварыць, але відаць, што польскай мовы ён добра не ведае. Паявіліся Валянцін і Пэтэр. Наш новы знаёмы прызнаецца, што ён не паляк, а рускі. Уцёк з нямецкага палону і калі яго немцы злавілі, то не прызнаўся, што ён рускі, а сказаў, што паляк, каб яго не загналі ў лагер для ваеннапалонных. Накіравалі яго сюды і ён працуе тут у баўэра. Ён запрасіў нас да сябе ў пакой у хляве. Стаяў там толькі ложак і маленькі столік. Пытаемся, ці не мае малака, бо мы галодныя. Мы маем грошы і заплацім яму за малако. Размаўляем па-руску. Малака ён не меў, бо не працуе ля кароў. Ён абяцаў, што папросіць другога працаўніка — паляка, які нам прадасць малако. Але ён нам катэгарычна адмовіў. Ён не хоча грошай і не дасць нам малака. Валянцін выцягнуў сваю пачку, падзяліўся з намі. Рускі сказаў, што зварыць бульбу. Але мы не хацелі чакаць і папрасілі яго, каб нас завёў у сена, дзе мы маглі б пераначаваць. На вышках над хлявом было поўна сена і мы змучаныя палажыліся спаць. Нашы чамаданы мы пакінулі ў яго пакоі. Мы толькі пачалі засынаць, як убег наш знаёмы і са страхам сказаў: „Убегайте. Этот проклятый поляк донёс на вас ландвахам. Они вас арестуют”. Што было рабіць? Валянцін і Пэтэр сарваліся, ды я не мог устаць. Я сказаў: „Я нікуды не іду. І так нідзе цяпер не ўцячэм. Хай прыходзяць і нас забіраюць”. І яны таксама асталіся. Сталі чакаць, але ніхто да нас не прыходзіў і мы заснулі моцным сном. Калі я абудзіўся, ужо было відна. Валянцін і Пэтэр яшчэ спяць. У нізе ў хляве ціха. Цікава, чаму па нас не прыйшлі?

*(Працяг будзе)*

# БЕЛАРУСУ ЎСЮДЫ ЦЯЖКА...

**ГУТАРКА З ВЯЧКАМ ЦЕЛЕШАМ, НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ ЛАТВІЙСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ „СВІТАНАК”.**

*— Ці цяжка быць беларусам у Рызе?*
— Беларусу ўсюды цяжка...

*— І шмат вас там, у Латвіі, „мучыцца”?*
— Перад апошнім перапісам было сто дваццаць тысяч, цяпер засталося мо тысяч пяць, большасць ад'ехала.

*— Як Вы трапілі ў Рыгу?*
— У пяцьдзесят восьмым годзе я прыехаў вучыцца ў Латвійскую мастацкую акадэмію. Пасля — латышская жонка, праца...

*— І праца цікавая?!*
— Працы мастакам цяпер мала. Ідэалогію скасавалі, раблю рэкламу. А дагэтуль 20 гадоў працаваў у будаўнічых арганізацыях мастаком-афарміцелем.

*— Аднак Вячка Целеш, нягледзячы на тое, што давялося яму жыць не на роднай зямлі, добра вядомы ў Беларусі. І вядомы не толькі як мастак, але і як гісторык літаратуры, збіральнік старых паштовак, як беларускі грамадскі дзеяч.*
— Жывучы ў Латвіі, я проста застаўся беларусам.

*— У кожнай галіне сваёй дзейнасці?*
— Безумоўна.

*— У Беларусі, здаецца, найбольш цэняць Вас як калекцыянера, у якога найбольшыя зборы старых беларускіх паштовак!*
— Паштоўкі пра Беларусь пачаў збіраць ад 1968 года. Найстарэйшыя — з 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Толькі паштовак, выдадзеных да 1917 года, у мяне тысяч пяць. Ёсць таксама ўсе беларускія савецкія паштоўкі даваеннага і паваеннага перыяду. Вось і ў вашым беластоцкім альбоме „Białystok na starych pocztówkach” у нейкай ступені выкарыстаны мае зборы.

*— У 1984 годзе Вы выдалі кніжку „Менск на старых паштоўках”. Кажуць, што рыхтуецца нешта новае?*
— У выдавецтве „Беларусь” ужо шосты год ляжыць кніжка „Гарады Беларусі на старых паштоўках” з унікальнымі здымкамі. Нядаўна заходзіў. Абяцалі выдаць у 1994 годзе.

*— Вы з'яўляецеся не толькі намеснікам старшыні Латвійскага таварыства беларускай культуры „Світанак”, але і загадчыкам беларускай нядзельнай школкі, якая працуе ўжо другі год.*
— Так. У нашу школку ходзіць 30 дзетак. Маем дзве групы — старэйшую і малодшую. Дзеці прыходзяць на заняткі два разы ў тыдзень.

*— Не замала ім гэтага, каб трымаць сталы кантакт з беларускай мовай, бо мо не ўсе і ў хаце гавораць па-беларуску?*
— Мару пра тое, каб адкрыць сапраўдную беларускую нацыянальную школу.

*— Ці ўдасца Вам гэта ў Рызе?*
— Веру, што становішча будзе з часам больш стабільнае.

*— Ці абазначае гэта, што пакуль што ў Латвіі выгадней быць латышом?*
— Я адчуў латышскую нацыянальнасць у 1958 годзе, калі паступіў у Мастацкую акадэмію. І цяпер тое, што робіцца ў Латвіі, гэта для мяне не нацыяналізм. Проста трэба ведаць мову, бо інакш цябе могуць выкінуць з працы. Але калі прыедзеш у іншую краіну — Францыю, Англію, Польшчу — таксама трэба ведаць мову гэтай краіны. Тыя, што жылі ў Латвіі да 1940 года, маюць латышскае грамадзянства, маюць яго таксама іх дзеці ды ўнукі. А мы не маем. Не можам галасаваць і выбіраць. І таму, бадай, многія з тых, што тут засталіся, хацелі б атрымаць латышскае грамадзянства, але пакуль што закон аб грамадзянстве не прыняты. Трэба сказаць, што нягледзячы на ўсё, я асабіста дыскрымінацыі не адчуваю.

*— Як мастак Вы кіруеце беларускай мастацкай студыяй „Вясёлка”, а таксама з'яўляецеся старшынёю аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі „Маю гонар”.*
— Вось менавіта. Чакаем, каб далучыліся да нас мастакі-беларусы з Польшчы. Гэта ж таксама прыбалтыйская краіна.

*— І на канец крыху інтымнае пытанне. Я заўважыла, што Ваша цяперашняя жонка стараецца гаварыць па-беларуску. Ці яна ад Вас вучыцца гэтай мове?*
— Яна са Смаленшчыны, так што амаль беларуска.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыла і фатаграфавала ў хаце Мальдзісаў**

**АДА ЧАЧУГА**



*Вячка Целеш з партрэтам Адама Мальдзіса ягонага аўтарства.*



 

# ЖЫЦЦЁ ПАД СТРАХАМ

Замуж ішла Зося пад страхам. Прычапіўся п'яніца Віця і аднойчы на забаве сказаў:

-- Выйдзі за мяне замуж!

-- Як жа за цябе мне выходзіць? Ты ж п'яніца і хуліган!

-- Паспрабуй, не выйдзі! Я цябе заб'ю!

Зося аб гэтым расказала маці. Бацькі ў яе не было, не вярнуўся з вайны.

-- Вось гора на цябе прыйшло, дачушка, -- усхвалявалася маці. -- Так і яго бацька зрабіў з маткай, потым біў ды катаваў. Няма ў нас абаронцы, трэба нам будзе звярнуцца за дапамогай у міліцыю...

-- Я вам дам міліцыю! Хату спалю, пазабіваю абедзве! -- зароў Віця на двары -- стаяў там пад акном, усё чуў.

-- Пайду я за яго, мама, -- заплакала Зося. -- Як нам спаліць хату, то і міліцыя не дапаможа.

-- Зосенька, лепш табе было памерці маленькай, чым за такога вар'ята выходзіць.

На вяселлі Віця напіўся да няпамяці. Зосіна маці вельмі перажывала няшчасце дачкі, прыхварэла на сэрца ды памерла.

Муж часта біў Зосю, выганяў яе з хаты. Пасля двух гадоў такога іх жыцця нарадзілася ў іх дачка, вельмі хваравітая. Зося ўсё дрыжала, што малая памрэ. Праз пяць гадоў Віця памёр ад алкагольнага атручэння.

Малая Анэтка пачала папраўляцца. Людзі казалі, што гэта так дзякуючы бацьку хварэла, але паправа здароўя можа пагоршыцца.

-- Вось ты, Зося, дурная была. Каб сказала ўсё міліцыі, пасядзеў бы, выйшаў бы, можа, лепшы. Чаму ж ты так яму тады паддалася? -- крычалі на яе суседкі.

-- З турмы толькі горшымі выходзяць. А як пайшла б за іншага, то таксама мяне забіў бы...

Калі Анэтка пайшла ў школу, маці ўсё баялася, што зноў захварэе. Дзяўчына закончыла медыцынскую сярэднюю школу. Працавала ў амбулаторыі, выйшла замуж, нарадзіла двое дзетак. Наракала ўсё на здароўе, на галаўныя болі. Аднойчы, мыючы посуд, упала. Гэта быў інсульт.

Цяпер Зося баіцца за сваіх унукаў. Каб ім толькі было добра ў жыцці...

**АЎРОРА**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прыснілася, што ў маю хату ўбег, а лепш сказаць — проста ўварваўся малады, ладны слон. Глянуў я на яго, а ён такі прыемны, сімпатычны, з маленькім хвосцікам. Гэты слон паводзіў сябе, як кот. Быў такі мілы, ласіўся. Я яму кажу: „Куды ты лезеш?", а ён не слухае мяне і ўсё адно лезе. Вельмі дзіўны сон, праўда, Астроне?! Цікава, што ён можа абазначаць.

**АЛЕГ**

Астроне! Што абазначае, калі сніцца, што я таплюся? Мне такія сны сняцца даволі часта. Бывае вялікая хваля, мне страшна. Увесь узмакрэлы, я прачынаюся, а часамі ў сне крычу і жонка будзіць мяне з дакорам, што зараз папрачынаюцца дзеці. Што са мной будзе? Я думаю, што гэтыя сны сведчаць аб нечым кепскім.

**Юрка**

Алег! Твой маладзенькі слонік можа абазначаць для цябе нейкі трывалы набытак. Можа гэта быць добрая праца, а можа быць і нерухомая маёмасць. Магчыма, спачатку гэта будзе рэч не надта каштоўная, бо слонік жа быў яшчэ невялічкі, але слон ёсць слон, і спадзяюся, што твой поспех будзе большы, бо і слон жа калісьці вырасце.

Юрка! Твае частыя сны пра тое, што ты топішся, сведчаць аб тым, што ў тваім жыцці ёсць вялікія складанасці, з якімі даводзіцца табе змагацца штодзённа. Калі заадно сніцца табе, што цябе выратоўваюць, дык абазначае гэта, што пазбудзешся небяспекі.

**АСТРОН**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КІСЕЛЬ МЯДОВЫ**

Прадукты:
*20 дэкаў мёду,*
*1 літр вады,*
*10 гваздзік,*
*2 лыжкі крухмалу,*
*сок з аднаго лімона.*

Мёд развесці ў вадзе, дадаць гваздзіку, закіпяціць. У сіроп, калі закіпіць, уліць, увесь час памешваючы, крухмал, разведзены ў некалькіх лыжках халоднай вады, а таксама лімонны сок. Мяшаючы, другі раз давесці да кіпення, зняць з агню, разліць у кубачкі і паставіць, каб кісель застыў.

**ПОСНАЕ МАЛАКО**

*20 дэкаў любых арэхаў або міндаля,*
*3-4 шклянкі кіпячонай, астуджанай вады,*
*цукар па смаку.*

Вылушчаныя арэхі біць і расціраць у металічнай ступе (moździerzu), паступова даліваючы ваду, пакуль не атрымаецца вадкасць, падобная да малака. Працадзіць масу праз палатно, адціснуць і пасаладзіць па смаку. Паставіць у вельмі халоднае месца.

Падобным чынам можна падрыхтаваць поснае малако з маку (мак расціраць у макотры, даліваючы крышку вады).

**ГАСПАДЫНЯ**

# СВЯТОЧНАЯ ВІРАВАНКА

1. святочная „прыгажуня", 2. там ляжаў Хрыстос адразу пасля нараджэння, 3. капае са свечкі, 4. чорны, але смачны напітак, 5. у ката ёсць, але ў каня — няма, 6. сталіца скандынаўскай дзяржавы, 7. колькасць матэрыі або мноства, 8. крамка з мясам, 9. „Піліпаўка", 10. пад адным брылём чатыры браты, 11. рудая ды хітрая, 12. вёска з царквой, 13. плошча ў крузе, 14. спалучае берагі, 15. можа быць са свечкай на стале, 16. летуценні, 17. з ядам, 18. вые, 19. не сып яе на рану, 20. страшнае насякомае для адзежы, 21. упрыгожанне, 22. раздзяляе Расею і Кітай, 23. закончаная думка ў пісьме, 24. усё, што звязанае з палавымі пачуццямі, 25. жыў на Алімпе, 26. лагічны змест, 27. у яго трэба папасці (стрэліць), 28. навагодні..., 29. з яе будзе хлеб, 30. нашчадак дзеда, 31. загнуты металічны канец, 32. праўдзівае здарэнне, 33. перад усходам сонца, 34. у Пецярбургу, 35. славянская багіня ўрадлівасці і дабрабыту, 36. апавясціў Хрыстова нараджэнне, 37. малады чалавек, 38. плакса-разява, 39. яна для акцёра, 40. удача, поспех, 41. селязёнка, 42. плыве ў берагах, 43. тычка з пучком раслін на канцы, 44. 2,45 см, 45. над намі, 46. атрыбут каляднай вячэры, 47. гліняная пасудзіна з вушкам і носікам, 48. месца пераламання, 49. звязаны пук збажыны, 50. паласа, раён, 51. тлушч у арганізме жывёлы, 52. страва з круп, 53. сялянскі дом, 54. палаза на нагу, 55. баравік, 56. вялікая капа сена або саломы, 57. у сям'і, 58. 100 см, 59. частка хаты, 60. трохвугольная ўстаўка ў сукенцы, 61. бегае ў полі, 62. за сэрца цісне, 63. абагравае шыю, 64. на ёлцы быццам снег, 65. баіцца бусла, 66. карп, 67. 3 „о", 68. падатак на граніцы, 69. адурэнне, замарачэнне, 70. паверхня на скасяк, 71. спечаны з мукі, 72. адзначаецца дасціпным зместам, 73. матэрыял на лапці, 74. пад носам, 75. „цар" Белавежскай пушчы, 76. „Пагоня", 77. экзатычны драпежнік, 78. найкарацейшы ў годзе, 79. раздзяляе Еўропу і Азію, 80. ёсць „Слова" пра яго паход, 81. „кандыдатка" на ёлку. 82. кабан у лесе, 83. рыба на святочны стол, 84. цяпер, 85. піша прозай.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 47 н-ра:**

**Гарызантальна:** згон, Кітай, агонія, Баку, дукат, Рангун, прыступ, Раіса, Васіліса, Барбадас, апора, рэверанс, вароты, таксі, гоні, Купала, Колас, німб.

**Вертыкальна:** мінута, калапс, графства, Науру, родны, цівун, трафарэт, аплікант, рыба, ікра, кіло, гара, астраном, псалом, распад, Кабул, рогат, выган.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ЖЫЦЦЁ ПАД СТРАХАМ

Замуж ішла Зося пад страхам. Прычапіўся п'яніца Віця і аднойчы на забаве сказаў:

-- Выйдзі за мяне замуж!

-- Як жа за цябе мне выходзіць? Ты ж п'яніца і хуліган!

-- Паспрабуй, не выйдзі! Я цябе заб'ю!

Зося аб гэтым расказала маці. Бацькі ў яе не было, не вярнуўся з вайны.

-- Вось гора на цябе прыйшло, дачушка, -- усхваляўвалася маці. -- Так і яго бацька зрабіў з маткай, потым біў ды катаваў. Няма ў нас абаронцы, трэба нам будзе звярнуцца за дапамогай у міліцыю...

-- Я вам дам міліцыю! Хату спалю, пазабіваю абедзве! -- зароў Віця на двары -- стаяў там пад акном, усё чуў.

-- Пайду я за яго, мама, -- заплакала Зося. -- Як нам спаліць хату, то і міліцыя не дапаможа.

-- Зосенька, лепш табе было памерці маленькай, чым за такога вар'ята выходзіць.

На вяселлі Віця напіўся да няпамяці. Зосіна маці вельмі перажывала няшчасце дачкі, прыхварэла на сэрца ды памерла.

Муж часта біў Зосю, выганяў яе з хаты. Пасля двух гадоў такога іх жыцця нарадзілася ў іх дачка, вельмі хваравітая. Зося ўсё дрыжала, што малая памрэ. Праз пяць гадоў Віця памёр ад алкагольнага атручэння.

Малая Анэтка пачала папраўляцца. Людзі казалі, што гэта так дзякуючы бацьку хварэла, але паправа здароўя можа пагоршыцца.

-- Вось ты, Зося, дурная была. Каб сказала ўсё міліцыі, пасядзеў бы, выйшаў бы, можа, лепшы. Чаму ж ты так яму тады паддалася? -- крычалі на яе суседкі.

-- З турмы толькі горшымі выходзяць. А як пайшла б за іншага, то таксама мяне забіў бы...

Калі Анэтка пайшла ў школу, маці ўсё баялася, што зноў захварэе. Дзяўчына закончыла медыцынскую сярэднюю школу. Працавала ў амбулаторыі, выйшла замуж, нарадзіла двое дзетак. Наракала ўсё на здароўе, на галаўныя болі. Аднойчы, мыючы посуд, упала. Гэта быў інсульт.

Цяпер Зося баіцца за сваіх унукаў. Каб ім толькі было добра ў жыцці...

**АЎРОРА**




Астроне! Мне прыснілася, што ў маю хату ўбег, а лепш сказаць — проста ўварваўся малады, ладны слон. Гляну ў я на яго, а ён такі прыемны, сімпатычны, з маленькім хвосцікам. Гэты слон паводзіў сябе, як кот. Быў такі мілы, ласіўся. Я яму кажу: „Куды ты лезеш?", а ён не слухае мяне і ўсё адно лезе. Вельмі дзіўны сон, праўда, Астроне?! Цікава, што ён можа абазначаць.

**АЛЕГ**

Астроне! Што абазначае, калі сніцца, што я таплюся? Мне такія сны сняцца даволі часта. Бывае вялікая хваля, мне страшна. Увесь узмакрэлы, я прачынаюся, а часамі ў сне крычу і жонка будзіць мяне з дакорам, што зараз папрачынаюцца дзеці. Што са мной будзе? Я думаю, што гэтыя сны сведчаць аб нечым кепскім.

**Юрка**

Алег! Твой маладзенькі слонік можа абазначаць для цябе нейкі трывалы набытак. Можа гэта быць добрая праца, а можа быць і нерухомая маёмасць. Магчыма, спачатку гэта будзе рэч не надта каштоўная, бо слонік жа быў яшчэ невялічкі, але слон ёсць слон, і спадзяюся, што твой поспех будзе большы, бо і слон жа калісьці вырасце.

Юрка! Твае частыя сны пра тое, што ты топішся, сведчаць аб тым, што ў тваім жыцці ёсць вялікія складанасці, з якімі даводзіцца табе змагацца штодзённа. Калі заадно сніцца табе, што цябе выратоўваюць, дык абазначае гэта, што пазбудзешся небяспекі.

**АСТРОН**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

## КІСЕЛЬ МЯДОВЫ

Прадукты:
*20 дэкаў мёду,*
*1 літр вады,*
*10 гваздзік,*
*2 лыжкі крухмалу,*
*сок з аднаго лімона.*

Мёд развесці ў вадзе, дадаць гваздзіку, закіпяціць. У сіроп, калі закіпіць, уліць, увесь час памешваючы, крухмал, разведзены ў некалькіх лыжках халоднай вады, а таксама лімонны сок. Мяшаючы, другі раз давесці да кіпення, зняць з агню, разліць у кубачкі і паставіць, каб кісель застыў.

## ПОСНАЕ МАЛАКО

*20 дэкаў любых арэхаў або міндаля,*
*3-4 шклянкі кіпячонай, астуджанай вады,*
*цукар па смаку.*

Вылушчаныя арэхі біць і расціраць у металічнай ступе (moździerzu), паступова даліваючы ваду, пакуль не атрымаецца вадкасць, падобная да малака. Працадзіць масу праз палатно, адціснуць і пасаладзіць па смаку. Паставіць у вельмі халоднае месца.

Падобным чынам можна падрыхтаваць поснае малако з маку (мак расціраць у макотры, даліваючы крышку вады).

**ГАСПАДЫНЯ**

# СВЯТОЧНАЯ ВІРАВАНКА



1. святочная „прыгажуня", 2. там ляжаў Хрыстос адразу пасля нараджэння, 3. капае са свечкі, 4. чорны, але смачны напітак, 5. у ката ёсць, але ў каня — няма, 6. сталіца скандынаўскай дзяржавы, 7. колькасць матэрыі або мноства, 8. крамка з мясам, 9. „Пілiпаўка", 10. пад адным брылём чатыры браты, 11. рудая ды хітрая, 12. вёска з царквой, 13. плошча ў крузе, 14. спалучае берагі, 15. можа быць са свечкай на стале, 16. летуценні, 17. з ядам, 18. вые, 19. не сып яе на рану, 20. страшнае насякомае для адзежы, 21. упрыгожанне, 22. раздзяляе Расею і Кітай, 23. закончаная думка ў пісьме, 24. усё, што звязанае з палавымі пачуццямі, 25. жыў на Алімпе, 26. лагічны змест, 27. у яго трэба папасці (стрэліць), 28. навагодні..., 29. з яе будзе хлеб, 30. нашчадак дзеда, 31. загнуты металічны канец, 32. праўдзівае здарэнне, 33. перад усходам сонца, 34. у Пецярбургу, 35. славянская багіня ўрадлівасці і дабрабыту, 36. апавясціў Хрыстова нараджэнне, 37. малады чалавек, 38. плакса-разява, 39. яна для акцёра, 40. удача, поспех, 41. селязёнка, 42. плыве ў берагах, 43. тычка з пучком раслін на канцы, 44. 2,45 см, 45. над намі, 46. атрыбут каляднай вячэры, 47. гліняная пасудзіна з вушкам і носікам, 48. месца пераламання, 49. звязаны пук збажыны, 50. паласа, раён, 51. тлушч у арганізме жывёлы, 52. страва з круп, 53. сялянскі дом, 54. палаза на нагу, 55. баравік, 56. вялікая капа сена або саломы, 57. у сям'і, 58. 100 см, 59. частка хаты, 60. трохвугольная ўстаўка ў сукенцы, 61. бегае ў полі, 62. за сэрца цісне, 63. абагравае шыю, 64. на ёлцы быццам снег, 65. баіцца бусла, 66. карп, 67. 3 „о", 68. падатак на граніцы, 69. адурэнне, замарачэнне, 70. паверхня на скасяк, 71. спечаны з мукі, 72. адзначаецца дасціпным зместам, 73. матэрыял на лапці, 74. пад носам, 75. „цар" Белавежскай пушчы, 76. „Пагоня", 77. экзатычны драпежнік, 78. найкарацейшы ў годзе, 79. раздзяляе Еўропу і Азію, 80. ёсць „Слова" пра яго паход, 81. „кандыдатка" на ёлку. 82. кабан у лесе, 83. рыба на святочны стол, 84. цяпер, 85. піша прозай.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 47 н-ра:**

**Гарызантальна:** згон, Кітай, агонія, Баку, дукат, Рангун, прыступ, Раіса, Васіліса, Барбадас, апора, рэверанс, вароты, таксі, гоні, Купала, Колас, німб.

**Вертыкальна:** мінута, калапс, графства, Науру, родны, цівун, трафарэт, аплікант, рыба, ікра, кіло, гара, астраном, псалом, распад, Кабул, рогат, выган.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.